В. С. Варапаева, Т. С. Куцанава

# ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ

Падручнік для **3** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 821.161.3.09-93(075.2=161.1)
ББК 83.3(4Беи)я71
В18

Р э ц э н з е н т ы:

дацэнт кафедры лінгвістычнай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі «Акадэмія паслядыпломнай адукацыі», кандыдат педагагічных навук, дацэнт *І. М. Слесарава*;
метадычнае аб’яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 131 г. Мінска» (намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце *Т. В. Шантур*)

## Умоўныя абазначэнні:

 — чытайце правільна;

 — слоўнік;

 — чытае настаўнік;

 — пытанні і заданні;

 — заданне павышанай цяжкасці

ISBN 978-985-559-269-4

# АД АЎТАРАЎ

Дарагія трэцякласнікі!

Вы трымаеце ў руках кнігу, у якой сабраны лепшыя творы беларускай літаратуры і вуснай народнай творчасці.

У падручнік уваходзяць раздзелы: «З крыніц народных...», «Паляцелі гусанькі па цяпло...», «Мой родны кут! Як ты мне мілы!..», «У шыбу галінкаю стукае снежань...», «Сцежкі дзяцінства» і «Багата вясна кветкамі, а лета — гульнямі».

З народнымі песнямі, казкамі, скорагаворкамі, прыказкамі, легендамі вы пазнаёміцеся ў раздзеле «З крыніц народных…».

Пра нашу прыгожую і цудоўную краіну Беларусь, яе працавіты і добразычлівы народ вы даведаецеся з раздзела «Мой родны кут! Як ты мне мілы!..».

Весела ўсміхнуцца, паразважаць, зрабіць пэўныя вывады вам дапаможа раздзел «Сцежкі дзяцінства».

Непаўторнай прыгажосці роднай прыроды, адметнасці кожнай пары года прысвечаны раздзелы: «Паляцелі гусанькі па цяпло...», «У шыбу галінкаю стукае снежань...», «Багата вясна кветкамі, а лета — гульнямі».

Дабра вам і радасці на шляху пазнання!

## Незаменнае

*Васіль Жуковіч*

Мір,
Радзіма,
Мама —
Усяму аснова.
Мір,
Радзіма,
Мама —
Нам святыя словы.
Замяніць і страціць
Нельга, немагчыма
Першыя паняцці:
Мама,
Мір,
Радзіма.



# З КРЫНІЦ НАРОДНЫХ...



## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ

У кожнай пары года ёсць свае святы. У час гэтых свят людзі весяляцца, спяваюць песні. Песні звязаны з рознымі з’явамі прыроды і жыццём людзей у зімовы, вясновы, летні і восеньскі час.

### Адкуль песня беларуская

Ці то полем, ці то лесам ішлі тры падарожнікі. Ішлі яны тры дні і тры ночы ды яшчэ паўдня. Прытаміліся. Прыселі. Раптам чуюць — спявае нехта. Прыслухаўся першы:

— Відаць, жаваранак.

— Не, — кажа другі, — гэта лес шуміць.

А трэці прыпаў вухам да зямлі і прашаптаў:

— Ды гэта ж зямля наша спявае.

1. Паразважайце, чаму кожны з падарожнікаў пачуў розныя спевы.
2. Што можна сказаць пра трэцяга падарожніка? Які ён (вясёлы, працавіты, кемлівы, творчы, разумны)?

## ВОСЕНЬСКІЯ ПЕСНІ

Восеньская праца і прыход гэтай пары года раскрываюцца ў восеньскіх песнях.

па-за-мяр-за́-лі, сцю-дзё-ная

### Восень мая, восень...

— Ой, восень мая,
Восень сцюдзёная,
Чаго ты рана захаладала?
— Я й не раненька,
Я й не позненька, —
Калі мая пара́ прыйшла:
Лісточак апаў,
зямельку ўслаў,
Вось мая і пара прыйшла.
Рэчкі сталі, пазамярзалі,
Вось мая і другая пара́.



1. З якім пытаннем звяртаюцца да восені? Прачытайце.
2. Знайдзіце ў тэксце і прачытайце адказ восені.

3. Як можна назваць першую пару восені і як другую?
4. Назавіце прыкметы ранняй і позняй восені.

**Сцюдзёны** — вельмі халодны.

## ЗІМОВЫЯ ПЕСНІ

Напярэдадні Каляд хлопцы, дзяўчаты ходзяць па сялянскіх дварах і спяваюць віншавальныя песні-калядкі. Калядоўшчыкі бываюць у масках — казы, мядзведзя, бусла і іншых. Гаспадары выносяць калядоўшчыкам гасцінцы, а яны за гэта жадаюць ім у новым годзе шчасця, здароўя, добрага ўраджаю.

### Калядкі

Калядкі, калядкі
Везлі бліны, аладкі
Ў маляваным вазочку,
На варане́нькім канёчку.

**Варане́нькі** — чорны.

га-спа-да́р-ска-му

**Го**го-го, шэрая!

На**-го-го, каза**
Го-го-го, каза,
Го-ша козанька
Дый залатая!



Ну-ка, козанька,
Павярніся,
Па новаму дому,
Па гаспада́рскаму,
Расхадзіся!

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Козанька-каза,
Каза добрая,
Бо, дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць
І расце карысць.

**Кары́сць** — добры вынік, выгада.

1. Калі спяваюцца калядныя песні?
2. Для чаго калядоўшчыкі вадзілі казу? Як яны яе называюць?
3. Што калядоўшчыкі жадалі гаспадарам? Прачытайце.
4. Як людзі дзякуюць калядоўшчыкам?
5. З якім настроем варта спяваць гэтыя песні?

## Прыказкі

- Прыйшлі Калядкі — бліны ды аладкі.
- Насталі Калядкі — гаспадарам парадкі.
- Багата снегу — багата хлеба.

## МА́СЛЕНІЧНЫЯ ПЕСНІ

Зіму праводзяць святам Масленіцы. Дарослыя пякуць бліны, а дзеці абыходзяць двары, збіраюць пачастункі, катаюцца на санках. На Масленіцу спяваюць вясёлыя песні.

* * *

А мы Масленку чакалі!  
Усю нядзельку выглядалі!  
Мы думалі, Масленка сем нядзелек,  
Ажно Масленка сем дзянёчкаў.  
А ў нас сёння Масленіца, Масленіца!  
Вылецела з куста ластавіца,  
Села-пала на калу́,  
Кідала масла па каму,  
Хто ўхопіць, дык таму.

**Ком** — кавалак круглай формы.  
**Ла́ставіца** — ластаўка.

1. Колькі дзён святкуюць Масленіцу?
2. Якую пару года праводзяць гэтым святам?
3. Чым займаюцца ў час свята дарослыя і дзеці?
4. Які настрой перадаецца ў гэтай песні? Перадайце яго пры чытанні.

## ВЯСНОВЫЯ ПЕСНІ

У пачатку сакавіка клічуць вясну: пякуць з цеста птушак, падкідваюць іх уверх і спяваюць вясновыя песні.

! жа-ва-ро́-на-чкі, са́-дзі-кі, ра-сквя-ці́-ла

## Жавароначкі, прыляціце



Жавароначкі, прыляціце,
Вясну красную прынясіце,
Каб сонейка засвяціла,
Каб снег белы растапіла,
Каб садзікі расквяціла.

?!

1. Хто звяртаецца да жавароначкаў?
2. Што прасілі людзі ў іх? Знайдзіце ў тэксце і прачытайце.
3. Знайдзіце словы з памяншальна-ласкальным значэннем.
4. Як вы разумееце выраз «вясна красная»?
5. Падумайце, якая мелодыя можа быць у гэтай песні.



## А ты, вясна, ты красна

— А ты, вясна, ты красна,
Што ты нам прынесла?
— А я прынесла, прынесла
Цёплае лета, ціхае
І цёплую вадзіцу,
З зямлі — травіцу.

?!

1. Чым адрозніваецца гэта песня ад папярэдняй?
2. Што прынесла людзям вясна? Знайдзіце адказ у тэксце і прачытайце.

3. Якой вы ўяўляеце вясну? Апішыце яе словамі.
4. Якую яшчэ песню пра вясну вы ведаеце?

## ЛЕТНІЯ ПЕСНІ

Свята Івана Купалы адзначаецца ў ноч з 6 на 7 ліпеня. Дзяўчаты і хлопцы скачуць праз вогнішча, спяваюць купальскія песні, шукаюць кветку шчасця — папараць. Існуе народнае павер'е, што той, хто яе знойдзе, заўсёды будзе шчаслівы.

### Купальская песня

— Купалінка, Купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?
— Мая дочка ў садочку
Ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць,
Белы ручкі коліць.
Кветачкі рвець,
Кветачкі рвець,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,
Слёзкі пралівае.



1. Прачытайце купальскую песню.
2. Ці ведаеце вы мелодыю да песні «Купалінка»? Якая яна (сумная, вясёлая, напеўная)?

3. Навошта ў песні ўжываюцца словы з памяншальна-ласкальным значэннем?
4. Вывучыце песню на памяць.

## ЖНІЎНЫЯ ПЕСНІ

У жніўных песнях расказваецца пра тое, як працавалі ў полі, збіралі ўраджай, праслаўлялі яго.

### Жніўная



Гаварыла я́дранае жыта:
— Не магу я ў полі стаяці,
Каласочка дзяржаці,
Толькі магу я стаяці
Ў полі капамі,
У гумне стагамі,
У клеці карабамі,
А на стале пірагамі.

**Гумно́** — будынак для складвання і абмалоту збожжа.
**Жні́ўная** — песня, якую спявалі ў час уборкі ўраджаю.
**Капа́** — снапы, складзеныя конусам.
**Клець** — кладоўка, дзе захоўваюцца розныя рэчы.
**Я́дранае жыта** — спелае жыта.

1. Прачытайце жніўную песню. Пра што ў ёй гаворыцца?

2. Чаму жыта гаворыць: «Не магу я ў полі стаяці»? Як вы разумееце гэтыя словы?
3. Што адбываецца з каласамі, калі іх своечасова не зжаць?
4. Калі жыта становіцца хлебам? Паразважайце.
5. Як трэба чытаць песню: у хуткім тэмпе ці павольна, напеўна? Чаму?

## ЛІРЫЧНЫЯ ПЕСНІ

Лірычныя песні не звязаны з абрадамі і календаром. Спяваюць іх за працай, у час адпачынку, у радасці і ў горы. Такія песні выказваюць розныя пачуцці, перажыванні. Лірычныя песні могуць быць вясёлыя, жартоўныя і сумныя.

### Рэчанька



— Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты няпоўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты няпоўная?

Чаму ж ты няпоўная,
З беражком няроўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком няроўная?

— А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Ясю коніка паіў,
Кася ваду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Кася ваду чэрпала.

1. Вызначце, да каго звяртаюцца ў песні.
2. Прачытайце, пра што пыталіся ў рэчанькі.
3. Што яна адказвала? Хто вінаваты, што рэчанька няпоўная? Знайдзіце адказ у песні. Ці рэчка жартуе, ці сапраўды вінаватыя Ясь і Кася?
4. Як вы прачытаеце песню (павольна, напеўна, хутка)?

## ЖАРТОЎНЫЯ ПЕСНІ

### Певунок

— Ку-ка-рэ-ку, певунок,
Пашый сабе кажушок,
Пашый штонікі з шаўкоў,
З залацістых паяскоў.
І пашыў, і надзеў,
І ў люстэрка паглядзеў.
І пашыў ён, і надзеў,
І ў люстэрка паглядзеў!
Усё!

1. Прачытайце песню.
2. Ці можна гэту песню назваць жартоўнай? Дакажыце.
3. Як вы думаеце, ці падобна яна на маленькую казачку? Чаму?

блі-ску́-ча-га

* * *

Гого-гого, гусачок,
Зрабі хлопчыку свісток
З белага крыла
Ды з бліскучага пяра.

І зрабіў ён, і падаў,
І сыночак заіграў.

1. Прачытайце песню. Чым яна вам спадабалася?
2. Як яе трэба чытаць?
3. Знайдзіце ў песні словы, якія ўжываюцца з памяншальна-ласкальным значэннем.
4. Вывучыце песню на памяць.

## БАЙКІ

Байка — невялікі твор, падобны да казкі. Байка адрозніваецца ад казкі тым, што заўсёды мае пэўны вывад.

### Чаму кот пасля яды мыецца

Злавіў кот мыш. А мыш ды і давай у яго прасіцца, каб ён пусціў яе на волю. А кот не пускае. Тады мыш давай хітраваць. Яна і кажа кату: «Коцік, усе людзі перад ядой мыюцца. А ты сёння яшчэ не мыўся. Памыйся, а тады сабе і з'ясі мяне».

Кот давай лапамі мыцца, а мыш хутка пад палок — і даганяй яе.

Пасля таго выпадку ўсе каты мыюцца пасля яды.



?! 1. Як мыш перахітрыла ката? Перакажыце байку.
2. Знайдзіце сказ, які дапамагае зразумець галоўную думку байкі.

## Хто задзірае нос угору

Спытаў хлопчык бацьку: «Скажы мне, тата, чаму гэта адзін колас так і гнецца да зямлі, а другі — тарчма тарчыць?»



— Які колас поўны, — адказаў бацька, — той да зямлі гнецца, а які пусты, той і тарчыць угору.

1. Які колас гнецца да зямлі? А які колас цягнецца ўгору?
2. Які мудры ўрок атрымаў хлопчык? Паразважайце.
3. Як вы разумееце назву твора?
4. Дайце сваю назву твору.
5. Чым цікавыя байкі? Якая з іх вам спадабалася больш? Чаму?

## ЛЕГЕНДЫ

Легенда — гэта апавяданне, падобнае на казку, пра якія-небудзь падзеі з народнага жыцця або з’явы прыроды.

ча-ра-дзе́-ем, Ме́-не-скам, ра-з’я-зджа́ў

### Адкуль узнік горад Мінск

Горад гэты заснаваны нейкім асілкам і чарадзеем Менескам. Менеск нібыта пабудаваў на рацэ Свіслачы млын на сямі колах. У яго млыне мука малолася не з жыта, а з камення. У поўнач ён раз’язджаў на сваім млыне па дарозе і збіраў дружыну з дужых людзей. З іх потым утварыўся цэлы народ, які пачаў сяліцца побач з млыном чараўніка.

Мясцовасць, дзе жыў гэты чарадзей, пачалі называць Менескам. А потым у гаворцы назва стала Менск, а затым і Мінск.



**Ко́ла** — круг са спіцамі, які круціцца на восі.
**Млын** — тут: прыстасаванне для размолвання зярнят.
**Чарадзе́й** — чараўнік.

## Адкуль узнікла назва Гомель

Там, дзе цяпер стаіць Гомель, некалі было шмат пяску пасярэдзіне ракі Сож. Каб плыты і ба́ркі, што плылі па рацэ, не занесла на мель, на беразе каля гэтага месца заўсёды стаяў чалавек і крыкам папярэджваў:

— Го! Мель! Го! Мель!

Вось і пайшло — Гомель.

**Ба́рка** — грузавое самаходнае рачное драўлянае пласкадоннае судна.

1. Прачытайце легенды. Пра што вы даведаліся?
2. Перакажыце легенду, якая вам спадабалася.
3. Ці ведаеце вы легенду аб паходжанні назвы свайго горада, вёскі? Раскажыце яе.

## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ

Казка — вуснае апавяданне. У ёй людзі з даўніх часоў выказвалі свае мары аб шчасці, аб перамозе дабра над злом, аб цудоўных і чароўных краінах, дзе ім хацелася б жыць. Казка складалася людзьмі, расказвалася, перадавалася імі з вуснаў у вусны, ад аднаго пакалення да другога — так узнікла народная казка.

У большасці казак ёсць казачны пачатак: «Жылі-былі...», «У некаторым царстве...», «Даўно гэта было...» — і казачны канец: «...і я там быў, мёд-піва піў, па вусах цякло, а ў рот не папала», «Вось вам казка, а мне абаранкаў вязка».

Героямі казак могуць быць звычайныя людзі і жывёлы, розныя чарадзеі і чарадзейныя прадметы.

### Самае добрае

Жыў-быў вельмі мудры чалавек. Была ў яго дачка — малая дзяўчынка. Жылі яны ў прыгожым вялікім доме. А каля дома быў сад, поўны кветак. З раніцы да вечара малая дзяўчынка гуляла ў садзе альбо

бегала па пакоях дома. Толькі ў адзіны пакой яна не ўваходзіла, таму што ён заўсёды быў замкнуты.

Аднойчы дзяўчынка пачала прасіць мудраца:

— Дазволь мне, тата, зірнуць на замкнуты пакой! Ён, напэўна, самы добры.

— Там, сапраўды, за дзвяры́ма ляжыць самае добрае, — адказаў бацька. — Але ты яшчэ зусім маленькая. Вось калі вырасцеш, я дам табе тое, што там захоўваецца. І падарунак гэты будзе радаваць цябе ўсё жыццё.

Расла дзяўчынка і вырасла. Даў ёй мудры чалавек залаты ключ ад таго замкнутага пакоя. Пабегла яна, адчыніла дзверы, і што ж яна ўбачыла? Пра́сніцу, верацяно і разгорнутую кнігу.

Больш нічога ў пакоі не было.

Пайшла дзяўчына да бацькі і сказала яму праз слёзы:

— Ты, бацька, мне казаў, што ў гэтым пакоі знаходзіцца самае лепшае, а я там знайшла толькі прасніцу, верацяно і кнігу.



— Але ж гэта, дачка мая, і ёсць самае лепшае, — адказаў ёй мудры чалавек. — Прасніца і верацяно — гэта праца, а кніга — вучэнне. Лепш за іх няма нічога на свеце. Усё добрае на свеце дасягаецца толькі працай і ведамі.

**Верацяно́** — прыстасаванне для ручнога прадзення ў выглядзе круглай драўлянай палачкі з патаўшчэннем унізе і завостранымі канцамі.
**Пра́сніца** — прыстасаванне, на якое падвешваецца кудзеля для прадзення.

1. Чым здзівіла вас казка?
2. Чаму мудрэц не дазволіў зайсці ў пакой маленькай дзяўчынцы? Як пра гэта гаворыцца ў казцы? Прачытайце.
3. Што ўбачыла дзяўчына ў таямнічым пакоі?
4. У чым бачыў сэнс жыцця мудры чалавек? Ці згодны вы з ім? Чаму?
5. Перакажыце казку блізка да тэксту.

на-дзе́й-на-га

## Бацькоўскія парады

Жыў у адным сяле чалавек, у якога быў сын. Вось аднойчы бацька і кажа:

— Слухай, сынку! Жыві так, каб ты меў у кожным сяле хату, на кожны дзень новыя боты і каб табе ўсе людзі кланяліся.

Задумаўся сын над бацькавымі словамі, а потым пытае:

— Як жа я магу паставіць у кожным сяле хату, купляць штодзень новыя боты і прымусіць усіх, каб мне кланяліся?

Засмяяўся стары і кажа:

— Вельмі лёгка, сынку! Будзеш мець у кожным сяле надзейнага сябра — будзеш мець і сваю хату.

Каб на кожны дзень былі новыя боты, трэба іх штовечар чысціць, і раніцай яны будуць, як новыя. І ўставай, сынку, на золку — раней за ўсіх, ідзі і працуй. А як пачнуць ісці на работу людзі, то ўсе будуць з табой вітацца і кланяцца.

**На зо́лку** — калі пачынае світаць.
**Прымуша́ць** — патрабаваць, каб нешта было зроблена.

1. Перачытайце парады, якія даваў бацька сыну.
2. Растлумачце першую параду бацькі.
3. Якімі з гэтых мудрых парад вы ўжо карыстаецеся?

## ПАРАЗВАЖАЙЦЕ НАД ПЫТАННЯМІ

1. З якімі песнямі вы пазнаёміліся?
2. Пра што гаворыцца ў восеньскіх песнях?
3. Калі спяваюцца калядкі? Чым яны адрозніваюцца ад восеньскіх песень?
4. З якімі святамі звязаны масленічныя песні? Дзе, калі і як яны спяваюцца?
5. Чым адрозніваюцца вясновыя песні ад летніх?
6. Як адзначаецца свята Купалле? Якія песні спяваюць?
7. Назавіце песні, якія вам больш за ўсё запомніліся, спадабаліся. Абгрунтуйце свой выбар.
8. Чым цікавыя байкі? Якая з іх вам спадабалася больш?
9. Пра што распавядаецца ў легендах? Якую легенду вы ведаеце? Раскажыце.
10. Назавіце казку, якую вам хочацца перачытаць або пераказаць сваім родным. Чаму?

# ПАЛЯЦЕЛІ ГУСАНЬКІ ПА ЦЯПЛО...



! ім-ша́-ры-шчы, зво́-дда-лі

## Гусанькі

*Станіслаў Шушкевіч*

Паляцелі гусанькі
    па цяпло,
Туды, куды лецейка
    ўцякло.
Як ляцелі нізенька
    над зямлёй,
Жаласліва крыкнулі
    ўсёй сям'ёй.
Рэкі і імша́рышчы,
    сенажаць
Шкода шэрым гусанькам
    пакідаць.

Ды нядоўга ўда́лечы
    ім бываць,
Ды нядоўга гусанькам
    гараваць.
Зноў пачуем зво́ддалі
    шумны крык,
Калі прыйдзе радасны
    красавік.
Прынясуць нам з выраю
    зноў цяпло,
Што ў пару асеннюю
    ўцякло.

**Зво́ддаль** — здалёку.
**Імша́рышчы** — лясістыя балоты, пакрытыя мохам.

1. Пра што гаворыцца ў вершы?
2. Знайдзіце і прачытайце радкі, якія сведчаць, што гусі з жалем пакідаюць родны край. Перадайце пры чытанні гэты настрой.
3. Прачытайце радкі, дзе гаворыцца пра зварот птушак дамоў. Як вы будзеце іх чытаць: па-ранейшаму сумна ці радасна, весела?
4. Звярніце ўвагу на тое, што верш падобны да народнай песні. На гэта ўказваюць і памяншальна-ласкальныя словы: *гусанькі, лецейка, нізенька*. Таму чытаць верш трэба павольна, напеўна.

## Прыказкі

- Гусі ляцяць высока — зіма яшчэ далёка.
- Гусі ляцяць нізка — зіма ўжо блізка.
- У чужой старонцы не так свеціць сонца.

## Ясныя дні восені

*Якуб Колас*

Сярод гнілой восені выдаюцца часам ясныя, светлыя дні. Ціха ўсюды. Вецер не скалыхне ні адзін лісцік, ні адну травінку. Ласкавае неба пазірае на зямлю; нідзе ні хмурынкі. Ясна і хораша, усё роўна як вярнулася лета. Падарыла восень людзям яшчэ некалькі ясных, светлых і цёплых дзён.

Хоць усюды і ціха, цёпла і ясна, але ўжо не вее тым жыццём, якое відаць вясною. Куды ні кінь вокам, на ўсім бачыш след восені. Хмурны хваёвы лес чуць заслаўся сінім дымком туману... А бярозы, асіны і дубы чырванеюць здалёк сваім лісцем і нагадваюць сабою аб восені. На ўсім ляжыць сінявы слой смугі не то дыму, не то туману.

А прыслухаешся — такая цішыня навокал!.. Толькі часам закрычаць у небе дзікія гусі, ключом пранясуцца жураўлі і схаваюцца ў сініх хвалях далёкага яснага неба. Крык іх заціхае памалу і замрэ, расплывецца ў цішыні асенняга дня.

Плаўна носіцца ў паветры белая павуціна, сцелецца па зямлі, чапляецца за кусты і сухую траву.

Прайшло цёплае лета. Апошнія вы, ясныя дзянькі восені!..

**Смуга́** — дымка; тое, што перашкаджае ясна бачыць.

1. Які настрой выклікае ў вас апісанне апошніх дзянькоў восені?
2. Знайдзіце ў тэксце словы і выразы, якія дапамагаюць зразумець адносіны Якуба Коласа да апошніх дзён восені.
3. Назавіце прыкметы восені, якія заўважае аўтар.
4. Перакажыце твор, выкарыстоўваючы словы і спалучэнні слоў з тэксту: *апошнія ясныя дзянькі восені, ласкавае неба, след восені, дымок туману, чырванеюць лісцем, жураўлі пранясуцца ключом, крык заціхае, белая павуціна.*

спа-тка́-нне

## Восень

*Сяргей Новік-Пяюн*



Восень, восень залатая
Сее радасць на зямлі,
Хмарка ў сінім небе тае,
Мкнуць у вырай жураўлі...

Я іду лясною сцежкай,
Як па мяккім дыване.
Восень з ветлівай усмешкай
На спатканне выйшла мне.

Ярка, хораша прыбрала
Ўсюды дрэвы і кусты
І зямлю памалявала
Ў колер жоўта-залаты.

**Мкнуць** — тут: ляцяць.

1. З якім настроем аўтар апісвае восень? Прачытайце радкі, якія падказалі вам гэты настрой.
2. Чаму паэт піша, што па лясной сцежцы ён ідзе, як па мяккім дыване? Растлумачце.
3. Прачытайце сказы. Падумайце, што было спачатку, а што — потым.

   *Не спяваюць птушкі. // Прыйшла восень. // Трава парыжэла. // Сонейка грэе мала. // Стала холадна.*

4. Уявіце, што вы — мастакі. Якія фарбы выкарыстаеце для стварэння карціны ранняй восені? Апішыце сваю карціну словамі.
5. Вывучыце верш на памяць.

са-пса-ва́-ла-ся, гня-здзе́-чка

## Развітальная песня

З самай раніцы ідзе дождж і трымае ў хаце Наташу і Аню. Праз акно дзяўчынкі любуюцца жоўтым уборам клёна, чырвоным адлівам вішні, залацістымі лістамі бярозы.

Раптам з двара пачулася песня. Мо здалося? Сёстры прыслухаліся. Не, спяваюць! Наташа глянула ў сад.



На яблыні сямейка шпакоў хорам выводзіла чароўную мелодыю.

— Мама, чаму шпачкі спяваюць пад дажджом? — запытала Наташа.

— Яны ж намокнуць! — бедавала Аня. — Хай бы ў шпакоўні сядзелі.

— Што ж ім рабіць, дзеткі, калі надвор'е сапсавалася? — адказала маці. — Адмяніць канцэрт? Яны ж прыляцелі пасядзець перад далёкай дарогай ля роднага гняздзечка, дзе вывеліся і гадаваліся.

* * *

Доўга слухалі дзеці развітальную песню. Аня ледзь не плакала ад жалю. Яна памахала птушкам рукой і крыкнула праз акно:

— Дзякуй, шпачкі! Да пабачэння!

Назаўтра выглянула сонца. Дзяўчынкі выбеглі ў сад: мо зноў убачаць маленькіх спевакоў, пачуюць іх цудоўныя песні. Але ў садзе было нязвыкла ціха і сумна: шпачкі паляцелі ў вырай.

*Паводле Васіля Гурскага*

**Сапсава́цца** — стаць дрэнным.

1. Які настрой у вас выклікае апавяданне (вясёлы, сумны)?

2. Чаму Аня і Наташа не выходзілі на вуліцу? Прачытайце, чым любаваліся дзяўчынкі.
3. Што пачулі яны праз акно?
4. Чаму шпакі спявалі пад дажджом? Знайдзіце адказ у тэксце.
5. Які настрой выклікала песня птушак у дзяцей?
6. Дайце назву кожнай частцы.
7. Перакажыце апавяданне па частках.

**!** на-ра́-да-ва-цца, раў-ню́-сень-кі-я, за-не-па-ко́-і-лі-ся

## Чаму дрэвы не спяваюць

*Георгій Марчук*

Усяму на зямлі ёсць пачатак і канец. Доўга цягнулася цёплае лета, ды і яно закончылася. Надышла прыгажуня восень. Восень адна да людзей не прыходзіць, у яе ёсць надзейны сябра — дождж. Восеньскі дождж, мяккі, ціхі, ласкавы, дробны, і ён не палохае дзяцей раскатамі грому і яркімі маланкамі на ўсё неба. Сябры: павучок Чарнушка, пчолка Жужа, верабейка Пашка і кацяня Смелы — сабраліся разам пад вялікім лістом Мальвы. Марасіў дробны дожджык, але сябрам было ўтульна і цёпла. У такое надвор’е добра слухаць самыя розныя казкі.

— А чаму дрэвы не спяваюць, а толькі шумяць? — нечакана спытаў у сяброў верабейка.

— Я не ведаю, я больш сябрую з кветкамі, — сказала пчолка Жужа.

— І я не ведаю, — адказаў і павучок.

— Таму, што яны растуць на адным месцы, у школу не ходзяць, песень не ведаюць, — бадзёра адказаў верабейка. Я ўчора лятаў ля школы: о, як хораша спяваюць дзеці. Каб мяне хто навучыў, і я спяваў бы, — больш сумна сказаў верабейка.

— Можа, Мальва ведае, чаму яны не спяваюць? Мальва, чаму дрэвы не спяваюць? — спытала пчолка Жужа ў Мальвы.

І вырашыла Мальва паведаць сябрам казку-быль, якую чула ад сваёй бабулі.

— Пытаеш, чаму дрэвы не спяваюць? Тады ўважліва слухайце, — пачала свой аповед Мальва. — Даўным-даўно жыў-быў на ўзгорку ладны, прыгожы лясок. Людзі нарадавацца не маглі. Сосны раўнюсенькія, тры бярозкі — як дзяўчаты з касамі, два клёны-прыгажуны. Дзіва! І так хораша ў згодзе жылі, што нават песні навучыліся спяваць. Нешта не спадабалася соснам ды бярозкам, што занадта клёны ўвосень прыгожыя. Усё — ім, уся ўвага. Давай ісці да іх у наступ. Клёны бароняцца, кажуць: «Мы ж зімою голыя, непрыгожыя стаім, а вы, сосны ды елкі, зялёныя». Не памагло. Прагналі клёнаў з узгорка. Асірацеў лес, але ж яшчэ жыў. Сонца пачало пячы, вятры дзьмуць. Запратэставалі бярозкі, што яны сабою ахвяруюць, закрываючы ад дарогі, ветру, пылу сосны. Давайце, маўляў, памяняемся месцамі. Не паслухалі сосны бярозак. Калючыя елкі выцеснілі з узгорка бярозкі, засталіся сосны адны і

не нарадуюцца. Аж наляцелі вятры, ды такія моцныя, і падалося соснам, што раней такіх вятроў і не было. Вятры былі, але ж калі сцяною стаялі бярозкі, сосны, клёны, не было страшна. Вецер вымятае пясок, агаляе карэнне, гне да долу сосны. Занепакоіліся тыя, давай клікаць на падмогу бярозкі ды клёны, але ж позна, сілы паасобку змагацца не засталося. Быў лясок на ўзгорку, і няма яго. З тых часоў больш песень дрэвы не пяюць, а рыпяць. Калі наляціць вецер, спяшаюцца лісты шэптам перадаць адно аднаму: «Не сварыцеся, не зайздросце, жывіце ў міры».

Уважліва слухалі сябры аповед Мальвы, нават не прыкмецілі, як і дождж заціх. Сябры падзякавалі Мальве за цікавую гісторыю. Самі ж далі адзін аднаму слова: ніколі ў жыцці не сварыцца, шанаваць і берагчы дружбу. Дапамагаць адно аднаму ў бядзе.

Кацяня прапанавала ўсім пайсці да школы і паслухаць новыя песні школьнага хору. Усе згадзіліся і рушылі да школы.

Тут і казцы нашай канец.

**Апо́вед** — апавяданне.
**Да до́лу** — да зямлі.

1. Чым спадабаўся вам твор?
2. Якія героі ў ім дзейнічаюць? Назавіце іх.
3. Якую казку расказала Мальва?
4. Хто і з кім паспрачаўся ў казцы? Чаму?
5. Ці правільна паводзілі сябе дрэвы?
6. Да чаго прывялі спрэчкі паміж дрэвамі?
7. Вызначце асноўную думку гэтага твора.

## Загадка

За дрэвы хаваецца,
На крыкі адгукаецца,
Спявае, рагоча,
Сустрэцца не хоча.

## Скорагаворкі

### Верасень

*Васіль Жуковіч*

Вырас верас і цвіце.
Восень, верасень ідзе.

### Лістапад

У садзе ў лістападзе
Апошні ліст ападзе.

! пры-слу-хо́ў-ва-е-цца, су-пра-ва-джа́-лі, пры-гле́-дзеў-ся, вы-крун-та́-сы

## Каралькі-спадарожнікі

Асенні лес — чуйны лес. Ён замірае ў сіняй цішыні і нібы прыслухоўваецца да самога сябе.

Вось трэснулі пад ветрыкам сухія сучкі, птушынай чародкай паляцела з дрэў пабурэлае лісце... І далёка-далёка пайшлі па лесе шолахі — лес нібы ўздыхнуў.

Ходзяць між дрэў шэпты-шолахі. Слухае іх лес, прыслухоўваюся і я з сынам Алеськам — мы вяртаемся з грыбоў.

Раптам пад пахілай бярозкай штосьці замітусілася — нібы мышкі, нібы лісце. Спыніліся мы, пераглянуліся. А «мышкі» тым часам загайдаліся на кончыках галінак.

— Каралькі! — радасна пазнаў птушак мой Алеська.

— Але ж, яны...

Убачылі каралькі і нас. Зеленаватыя, варушкія, яны яшчэ жвавей запырхалі на бярозцы. І весела зацінькалі, нібы якія лясныя гадзіннічкі: ці-ці-ці... — здалося, яны віталіся са мной і Алеськам.

Пайшлі далей. Каралькі таксама падаліся за намі. Пырх-пырх-скок... З сучка на сучок, з сасонкі на сасонку.

— А чаму яны, тата, усё пад дрэвамі лятаюць? — нечакана запытаўся Алеська.

— Тут, відаць, сынок, — падумаўшы, адказаў я, — адгадка такая: унізе ж пры зямлі заўсёды цяплей, чым угары. Ды тут, у кары дрэў, і мошак болей. Дробныя птушкі, калі захаладае, заўсёды селяцца на ніжэйшым паверсе лесу. Але ты вось што скажы мне, сынок: чаму гэтыя крылацікі завуцца каралькамі? І на красу яны сціплыя, і самі такія маленькія... А вось жа глядзі ты — каралькі. Нібы дзеткі якога ляснога караля! Асаблівая, выходзіць, птушка.

Прыціх, задумаўся Алеська. І раптам прасвятлеў, радасна крыкнуў у адказ:

— Што ты кажаш, татка?! Паглядзі, якія ў іх прыгожыя чубчыкі-грабеньчыкі! Як маленькія кароны!

— І праўда, сынок, — больш пільна прыгледзеўся я да птушак і пагладзіў малога па галоўцы...

*Паводле Міхася Вышынскага*

**Варушкí** — рухлівы.
**Пíльна** — уважліва.
**Чýйны** — які звяртае на ўсё ўвагу.
**Шóлах** — лёгкае, ледзь чутнае шапаценне.

1. Чаму ў апавяданні гаворыцца, што «асенні лес — чуйны лес»? Знайдзіце адказ у тэксце.
2. Ад імя каго вядзецца ў апавяданні гаворка?
3. Што ўбачылі ў асеннім лесе бацька з сынам?
4. Знайдзіце ў тэксце апісанне каралькоў і прачытайце.
5. Чым цікавыя гэтыя птушачкі?
6. Чаму іх называюць каралькамі?
7. Ці назіральны хлопчык Алеська? Пацвердзіце сваё меркаванне словамі з тэксту.
8. Перачытайце апавяданне. Падзяліце яго на часткі. Дайце назву кожнай частцы. Перакажыце апавяданне.

# Ключы бабулі Зімы

*Міхась Даніленка*

Славік сядзеў з бабкай Настуляй на лавачцы каля хаты.

Старэнькая яна, бабка Настуля. Сядзіць з кіёчкам, грэецца на асеннім сонцы ды жмурыць старэчыя вочы.

З неба даносяцца тужлівыя крыкі: «Курлы! Курлы!»

— Бабка! — тармосіць хлопчык за рукаў бабулю. — Глядзі: птушкі!

Бабка доўга ўзіраецца ў неба, нешта сама сабе шэпча і ўздыхае.

— Жураўлі, унучак, адлятаюць ад нас, — гаворыць яна. — Лета замыкаюць. Хутка лецейка ключы бабулі Зіме перадасць.

— А якія тыя ключы? — пытае Славік. — Калі іх лета перадасць зіме?

Бабка Настуля некаторы час маўчыць. Потым ласкава гладзіць бялявую галаву ўнука і, усміхнуўшыся, прапануе:

— А мы будзем з табой, галубок, кожны дзень пільнаваць, калі лецейка зіме ключы аддасць. Добра?

З таго дня Славік пільнаваў той момант, калі лета перадасць зіме ключы.

Аднойчы бабка Настуля паказала Слаўку на павуцінцы, што зачапілася за галінку рабіны, малюсенькага павучка. Ён, мабыць, таксама, як і жураўлі, адлятаў у цёплыя краі.

— Крыльцаў не мае, дык на павуціне падарожнічае, — тлумачыла бабка. — А вунь і пасланец бабулі Зімы на нашай рабіне ўсеўся.

На што ўжо добрыя вочы ў Славіка, а і то ён ледзь разгледзеў на рабіне чырванагрудую птушку. Яна сядзела і чысціла пышныя пёркі.

— Снягір, — сказала бабка. — Сняжок ён любіць. Бачыш: грудзі ў яго, нібы ранішняя зара на зімовым небе.

А яшчэ праз колькі дзён лужыну, што была каля іхняга двара, скаваў тонкі чысты лядок. Праз той лядок усё-ўсё відаць. Лядок быў і на копанцы. Калісьці ўвесну там звонка крычалі жабы.

— Глядзі, — паказала бабка Славіку на шэры камячок пад лёдам.

— Жаба?! — не паверыў сваім вачам хлопчык.

— Да зімы падрыхтавалася, — кіўнула галавой бабка. — А вясной адтае зямля, пацяплее. Тады і яна ажыве, заспявае сваю песню з сяброўкамі.

А яшчэ Славік бачыў каля самага агародчыка сляды зайца, бачыў сонных мух, што забіліся ў шчыліны бярвенняў. Шмат чаго цікавага паказвала бабка.

— Калі ж тое лета бабулі Зіме ключы перадасць? — дапытваўся хлопчык. — Хутка ўжо і снег пойдзе.

— А ты, унучак, не спяшайся, — суцяшала Славіка бабка. — Ты ж ужо і так трохі больш убачыў, чым раней. А падрасцеш, яшчэ ўважлівей будзеш да ўсяго прыглядацца. Тады — я ўпэўне-

на — не прапусціш і ключы, якія лета бабулі Зіме ўручае...

— А ты, бабка, ніколі не прапускала?

— Я, галубок, і цяпер стараюся не прапусціць, — усміхаецца бабка Настуля. — Васьмідзясятую зіму сустракаю...

У тую ноч Славіку прысніўся сон. Быццам на зялёным лузе плыве ў вянку з палявых рамонкаў Лета. Яго косы — залацістыя промні — яркім ззяннем аж слепяць вочы. А насустрач, пакрэктваючы, спяшаецца Зіма. Валёнкі ў яе цёплыя, рукавіцы вялікія. Узмахне Зіма рукавом кажуха — і рой сняжынак, быццам белыя матылькі, сыплецца на зямлю. Жабкі, жучкі хутчэй хаваюцца. Аддало Лета прыгожыя серабрыстыя ключы. Зіма ўзяла іх, нахмурыла сівыя ад інею бровы і павярнула ключыкам нябачны замок. І адразу ўся зямля пакрылася белай-белай прасцінsocial...

Расплюшчыў Славік вочы, а ў пакоі і сапраўды неяк нязвыкла светла. Кінуўся ён да акна і радасна закрычаў:

— На дварэ снег! Лета бабулі Зіме ключы перадало!

**Ко́панка** — вадаём, сажалка.
**Тармасі́ць** — тузаць, кранаць.

1. Чым спадабалася вам апавяданне?
2. Што можна сказаць пра адносіны паміж бабуляй і ўнукам, якія яны (ласкавыя, спагадлівыя, паважлівыя)? Растлумачце чаму.

3. Чаму вучыла бабуля ўнука? Знайдзіце словы ў тэксце.
4. Якія новыя веды атрымаў хлопчык?
5. Чаму бабуля гаварыла, што Лета аддае ключы Зіме? А можа, хто іншы? Паразважайце.
6. Якія малюнкі вы зрабілі б да твора?

## ПАРАЗВАЖАЙЦЕ НАД ПЫТАННЯМІ

1. Якой паўстала перад вамі восень у апісанні паэтаў і пісьменнікаў?
2. Ці любяць яны гэту пару года? Дакажыце.
3. А вы любіце восень?
4. Які з твораў раздзела вам асабліва запомніўся, спадабаўся? Чаму?
5. Прыдумайце самі апавяданне пра восень. Выкарыстайце свае назіранні: што адбываецца з дрэвамі, птушкамі, калі ляціць павуцінне, як свеціць сонейка і г. д.

# МОЙ РОДНЫ КУТ! ЯК ТЫ МНЕ МІЛЫ!..




! пра-пра́-дзе-даў, ве-ка-ве́-чны-мі, не-злі-чо́-ных

## Беларусь — мая Радзіма

*Артур Вольскі*

Якая прыгожая назва ў нашай краіны — Беларусь!

А яшчэ мы завём яе Радзіма.

А яшчэ — Бацькаўшчына.

Радзіма — бо тут мы нарадзіліся, бо яна нам самая родная з усіх краін на цэлым свеце.

Бацькаўшчына — бо яна дасталася нам ад бацькоў нашых. А ім ад іхніх бацькоў — нашых дзядоў. А далей — ад прадзедаў, ад прапрадзедаў... І так — аж да самых далёкіх продкаў.

Над шырокімі палямі, над векавечнымі пушчамі, над зялёнымі лугамі, над блакітнымі стужкамі рэк і рачулак, над люстрамі незлічоных азёр лунаюць у

высокім небе белакрылыя буслы. Таму паэт назваў краіну нашу зямлёю пад белымі крыламі.

А колькі багацця ў схавана ў зямлі гэтай! Калійныя солі, якімі ўзбагачаюць глебу, каб яна не біднела і давала добрыя ўраджаі. Іх здабываюць беларускія шахцёры пад Салігорскам. Вучоныя-геолагі знайшлі ў нетрах Беларусі і золата і кажуць, што ёсць нават алмазы. Трэба толькі як след пашукаць...

Жыта ў полі, яблыкі ў садах, свойская жывёла на падворках, звяры ў лясах, рыба ў водах... Ды хіба пералічыш усё!

Але самы вялікі скарб Беларусі — гэта людзі, беларусы.

Побач з беларусамі жывуць у нашых гарадах і вёсках палякі, літоўцы, рускія, яўрэі, татары... — выхадцы з іншых краін. Усе разам мы складаем беларускі народ. Усе мы — грамадзяне незалежнай Рэспублікі Беларусь. Так завецца наша дзяржава. Усе мы павінны памнажаць сваёй працай яе багацці, бараніць ад нягод і напасці, як баранілі яе нашы продкі.

**Луна́ць** — плаўна лятаць, рухацца ў паветры.
**Не́тры** — тое, што знаходзіцца пад зямной паверхняй.

1. Як пісьменнік ставіцца да сваёй Радзімы? Знайдзіце адказ у тэксце.
2. Як называюць нашу Радзіму? Чаму? Прачытайце.

3. Хто жыве побач з беларусамі? Раскажыце.
4. Што павінен рабіць кожны чалавек, каб яго краіна была багатай і моцнай?
5. Вызначце настрой твора.
6. Успомніце прыказку пра Радзіму.

## Твой род, твая Радзіма

*Васіль Вітка*

Маці, бацька, браты, сёстры. Яны твае самыя родныя, блізкія.

Добра, калі ў цябе ёсць бабуля, дзядуля — гэта з самага малку твае дарагія сямейнікі. Калі ж іх ужо няма, ці ведаеш ты, хто яны былі, як зваліся, ці ёсць у вас дома іх партрэты, іх фатаграфіі?

Ну, а хто былі бацькі тваіх дзядулі і бабулі — твае прадзеды? Як зваліся? Ці захоўваюцца ў вас рэчы, зробленыя іх рукамі, фатаграфіі, пісьмы?

Ці задумваўся калі ты, адкуль пайшоў твой род, адкуль пачалася твая дарога ў жыццё? Бо твая памяць — гэта памяць твайго роду, а памяць народа — вялікая кніга, якая называецца гісторыя.

Род і народ яднаюцца адным дарагім словам — Радзіма.

?!

1. Прачытайце твор. Як вы зразумелі словы *род*, *Радзіма*?
2. Раскажыце пра сваіх блізкіх. Хто яны? Чым займаюцца? Чым яны дарагія вам?

ад-гу-кнé-цца, у-ска-лы-хнé-цца, за-хлы-нé-цца

## Белая Русь

*Данута Бічэль-Загнетава*

Шчочку да вуснаў туліць,
каб таямніцу спытаць:
— Белая Русь, матуля,
гэта дзяўчынка?
Так?

Як называецца дзіўна...
Ты пра яе раскажы.
— Белая Русь — Радзіма.
Перад табой ляжыць.

Крыкні — яна адгукнецца
звонам гарачых кос.
Кропля з ліста сарвецца,
ускалыхнецца плёс.

Даль захлынецца громам —
Белая Русь запяе.
І азарыцца Нёман —
чыстае вока яе.

**Плёс** — ціхі шырокі ўчастак ракі паміж астравамі.

1. Пра што пыталася дзяўчынка ў маці? Прачытайце.

2. Чаму мама сказала, што «Белая Русь — Радзіма»? Як вы гэта разумееце?
3. Якая яна — наша Радзіма? Паразважайце.
4. Ці любіць паэтка сваю Радзіму? Дакажыце.
5. Прачытайце верш выразна.

! на-ста́-віў-шы, па-хо́-джа-ння, а-дзі-на́-ццаць, пра-ні́-кні-це-ся

## Мая Беларусь

Наставіўшы белыя ветразі крылаў, плануюць буслы. Іх многія і многія тысячы. Гнёзды паўсюль.

І таму, мне здаецца, зямлю нашу, Беларусь, можна назваць зямлёю пад белымі крыламі.

Чаму «Беларусь»? Ёсць некалькі варыянтаў паходжання гэтай назвы. Першы: белыя адзенні даўніх вясковых людзей, белыя іхнія валасы, белы колер скуры. Другі. А ён аніяк не супярэчыць першаму. Калі на нашы старажытныя славянскія землі прыйшлі татара-манголы — здолелі адбіцца ад іх амаль адны толькі мы. Мы — адбіліся. І менавіта таму мы «белая», «чыстая ад нашэсця татараў» Русь.

Якая яна, мая зямля? Гэта залатыя палі збажыны з сінімі вочкамі васількоў. Гэта светлыя ад бяроз гаі, што аглухлі ад птушынага звону. Гэта пушчы, падобныя на храмы, пушчы, дзе горда нясуць свае кароны алені. Гэта бясконцыя рэкі, у якіх плешчуцца бабры і рыба на захадзе сонца. Гэта амаль

адзінаццаць тысяч азёр, чыстых, як усмешка дзіцяці.

Гэта гераічная зямля. Безліч разоў, з пачатку дзён, грукаталі па ёй калясніцы вайны. Беларусь заўсёды мужна і да канца бараніла сваю праўду і веру.

Ёсць і горкая памяць у маёй зямлі. Дый як інача, калі кожны трэці жыхар Беларусі загінуў у апошнюю вайну. Першай прыняла яна ўдар ворага і гераічна змагалася з ім... У лясах амаль чатырыста тысяч партызан цаною жыцця баранілі ад ворагаў Радзіму дзеля таго, каб зберагчы волю, веру, Бацькаўшчыну.

Пранікніцеся любоўю да роднай Беларусі, дзеці. Велічная і гордая, яна таго вартая.

*Паводле Уладзіміра Караткевіча*

**Ве́тразь** — парус.
**Збажына́** — агульная назва хлебных злакаў (жыта, пшаніца, ячмень).
**Супярэ́чыць** — пярэчыць, не згаджаючыся з кім-небудзь.

1. Аб чым расказвае пісьменнік у творы?
2. Якой уяўляе аўтар Радзіму?
3. Як пісьменнік тлумачыць паходжанне назвы нашай краіны? Знайдзіце адказ у тэксце.
4. Як адносіцца аўтар да сваёй Радзімы? Дакажыце.
5. Якая горкая памяць ёсць у нашай зямлі? Раскажыце, выкарыстоўваючы словы з тэксту.

6. Да чаго заклікае нас Уладзімір Караткевіч? Чаму?
7. Што новага вы даведаліся пра сваю краіну?
8. Закончыце прыказкі пра Радзіму, дадаўшы словы:

У чужой старонцы не так свеціць … .
Дзе маці нарадзіла, там і … .
Родная зямля — маці, чужая старонка — … .
Той герой, хто за Радзіму … .

Словы-памочнікі: *гарой, мачыха, сонца, Радзіма*.

## Белавежа

Самая славутая ў Беларусі пушча, вы ведаеце, якая? Белавежская. Яна на захадзе нашай рэспублікі, на мяжы з Польшчай. А самы галоўны гонар пушчы — белавежскі зубр. Гэта — цар звяроў. Ён — самы вялікі і дужы. Можа паваліць рагамі дрэва, разбурыць сцяну з бярвенняў, можа нават на лясной дарозе спыніць матацыкл і машыну. Але ён рэдка гэта робіць. Зубр — спакойны звер, калі яго не чапаюць.

А вось — алень. У яго на галаве — рогі, як разгалістыя галіны з вострымі сукамі. Хто скажа, што гэта не магутная зброя, якою можна абараніцца і адагнаць ад сваёй сямейкі любога ворага?

А дужыя прыгожыя асілкі, каб умелі гаварыць, што б яны сказалі нам?

— Мы таксама гаспадары пушчы. У рагах і ў нагах у нас нязменная сіла, а завёмся мы — ласі.



— А мы — дзікі, — сказалі б нам невялічкія і смешныя паласатыя парасяткі. Так, яны з пароды свіней, толькі дзікія, таму і завуць іх — дзікі.

У пушчы многа розных звяроў, птушак. А ахоўваюць пушчу людзі. Тут звяры ведаюць, што чалавек — іх сябра і заступнік.

*Паводле Уладзіміра Караткевіча*

**Асíлак** — чалавек магутнай сілы, мужнасці, адвагі.

1. Пра што расказваецца ў творы?
2. Што вы даведаліся пра зубра, аленя, лася, дзікоў?
3. Хто ахоўвае пушчу?
4. Што вы яшчэ ведаеце пра Белавежскую пушчу? Раскажыце.

! заў-ва́-жыў-шы

## Шануйце ўсё жывое

*Уладзімір Дубоўка*

Як толькі я сябе помню, бацькі мае і старэйшыя людзі — суседзі — прывучалі нас, малых, шанаваць усё жывое, што вакол нас.

— Не тапчы травіцы, хадзі сцежачкай. Трава вырасце. Яе скосяць — будзе сена кароўкам, каню...

— Не чапай, не ламай гэтага дубочка або сасонкі. З іх вырастуць вялікія дрэвы, яны пойдуць на хату або на шафу...

— Асцярожна рві яблыкі — не паламай, не адвіхні галінку. Дрэва будзе хварэць, на паламаным суку не будзе яблыкаў...

— Праз жыта нацянькі не хадзі. Калі патопчаш яго, будзе менш хлеба...

Як толькі я сябе помню, штодня даводзілася пачуць нешта новае і цікавае.

— Гэта зёлка — дзівасіл. Калі выкапаць і высушыць яго карэнне — будзе зелле ад болю ў грудзях.

— Гэтая прыгожая красачка — васілёк. Калі яе высушыць — будзе зелле ад хваробы вачэй...

З маленства расло ў мяне замілаванне да прыроды. Нават крапіву я не збіваў кіем. Яна ж расце таксама на карысць чалавеку.

Любіў я, заўважыўшы ў лесе прыгожую кветку-зёлку, выкапаць яе з зямлі і прынесці ў агарод, бо ведаў, што кожная зёлка мае нешта сваё добрае і патрэбнае людзям.

**Зе́лле** — тут: лекавыя травы, а таксама настой на іх для лячэбных мэт, зёлкі.
**Кій** — прамая тонкая палка.
**Нацянькі́** — самым кароткім шляхам.
**Шанава́ць** — берагчы, паважаць.

1. Якія парады давалі дарослыя дзецям? Прачытайце.
2. Якія рысы характару выхоўвалі бацькі ў дзяцей з маленства?
3. Пра якія лекавыя расліны вы даведаліся з апавядання? Якія яшчэ ведаеце?
4. Як вы разумееце выраз «...расло ў мяне замілаванне да прыроды»?
5. Перачытайце твор яшчэ раз самому сабе. Падумайце, што можна сказаць пра яго аўтара. Які ён чалавек (мудры, цікаўны, любіць прыроду, шмат ведае і г. д.)?

## Слухай родную прыроду

*Васіль Жуковіч*

У любую пару года,
у пагоду, непагоду
слухай родную прыроду —

ты пачуеш галасы
таямнічае красы.
З лесам, з нівай залатою
размаўляе ветравей,
сонца-сонейка — з зямлёю,
з цішынёю — салавей,
з небам — рэкі і азёры,
хваля — з ніцаю вярбой...
Як і што яны гавораць,
слухай, сябра любы мой.

**Ні́цы** — пра дрэвы, кусты: з доўгімі звісаючымі галінамі.

1. Прачытайце верш.
2. Падумайце, да чаго заклікае паэт.
3. Што можна пачуць, слухаючы родную прыроду?
4. Хто з кім размаўляе ў вершы паэта Васіля Жуковіча? Знайдзіце адказ у тэксце.
5. Што б вы сказалі лесу, сонцу, небу, рацэ?
6. Як вы разумееце выразы: «галасы таямнічае красы», «ніва залатая»?

## ПАРАЗВАЖАЙЦЕ НАД ПЫТАННЯМІ

1. Чаму нашу краіну называюць Беларусь?
2. У якіх творах пра гэта гаворыцца? Хто іх аўтар?
3. Чым багатая наша краіна?
4. Як трэба адносіцца да Радзімы, свайго народа? У якіх вершах, апавяданнях вы пра гэта чыталі? Хто аўтары гэтых твораў?

# У ШЫБУ ГАЛІНКАЮ СТУКАЕ СНЕЖАНЬ...



## Зіма

*Якуб Колас*

Надышлі марозы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы
Шэранем убралі.

Замялі дарогі
Ветрыкі снягамі.
Лес, як дзед убогі
З доўгімі вусамі,

Апусціў галіны
І стаіць журботна,
Зрэдку верхавіны
Зашумяць маркотна.

Мяккая пярына
Вочы адбірае.
Белая раўніна —
Ні канца, ні краю.

Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі.
Рэчка анямела,
Змоўклі ручаёчкі.

Амярцвелі лозы,
Чуць галлём хістаюць,
А ў палях марозы
Ды вятры гуляюць.

**Марко́тна, журбо́тна** — сумна, тужліва.
**Шэ́рань** — іней.

1. Якія карціны зімы ўяўляеце вы пры чытанні верша? Апішыце.
2. Прачытайце, як у вершы апісаны рэчка, бярозы, лес. Што паэт гаворыць пра вятры і маразы? Як вы разумееце сэнс сказаў: «Мяккая пярына вочы адбірае», «Рэчка анямела»?
3. Параўнайце сказы: «Дрэвы ў лесе пакрыты снегам» і «Лес, як дзед убогі з доўгімі вусамі, апусціў галіны і стаіць журботна»? Які з іх дапамагае лепш уявіць карціну зімовага лесу? Чаму?
4. Чытайце верш павольна, захоўвайце паўзы пры знаках прыпынку.
5. Назавіце ў вершы рыфмаваныя радкі (*маразы — бярозы* і г. д.).

! бру-і́-цца, тра-скý-чы-я, стру-мé-ніць, а-глé-дзеў-ся

## Крынічка

*Міхась Шаванда*

Крынічка бруіцца ў глыбіні лесу, пад абрывам. Вянком абступілі яе бярозкі і кусты каліны. Паблізу — балотца. Туды і сцякае вада па размытаму раўчуку. У гэтым месцы царства жаб і вужоў. А на ўзгорку, вышэй абрыву, жыве ў нары барсук. Летам і зімой, у траскучыя маразы, б'е-струменіць крынічка. І людзі не абмінаюць яе. Прыходзяць звяры, злятаюцца з усяго лесу птушкі, каб глытнуць вады. Хоць летам хапае лужын, але ж крынічная вада смачнейшая.

Неяк зімой трапіў у той лес і я. Стаяў моцны мароз. Рэчку каля нашай вёскі ўжо скавала лёдам.



Іду на лыжах, думаю: няўжо і крынічку мароз-траскун замарозіў? Ціха ў лесе, снег іскрыцца на сонцы, нібы гарыць. Вось і знаёмы бярэзнік, кусты каліны, на якіх сям-там пунсавеюць ягады. Яшчэ не ўбачыўшы крынічкі, пачуў яе прывітальны звон. Дыхае крынічка! Ні мароз яе не скаваў, ні снегам не занесла.

Агледзеўся, а вакол крынічкі — сляды. Прыходзіў лось. Папіў вады, патупаў і пайшоў далей. Заяц таксама праскакаў тут. Гасцілі, бачу, і дзікі.

Напіўся і я з крынічкі вады. І ў біклажку набраў, каб дома дзяцей пачаставаць гаючай, як лекі, вадой.

**Біклáжка** — невялікая драўляная ці металічная плоская пасудзіна для вады.
**Бруíцца** — цячы, пераліваючыся струменямі.
**Гаю́чы** — здольны вылечваць хваробы.
**Раўчу́к** — невялічкі равок, канаўка; ручаёк.

1. Вызначце настрой апавядання (паважлівы, ласкавы, сярдзіты, замілаваны).
2. Прачытайце, чым любуецца і чаму радуецца пісьменнік.
3. Раскажыце, як пісьменнік зімой трапіў да лясной крынічкі.
4. Зрабіце да апавядання ілюстрацыі.

## Загадка-жарт

Што бяжыць без пугі, без повада?

## Снежны дзед

*Ніл Гілевіч*

Колькі шуму, колькі смеху:
Дзеда лепім мы са снегу!
Задала зіма работы —
На двары кацілі ўтрох —
І паставілі ля плоту.

Дзед стаіць, хоць і без ног.
Замест рук уткнулі палкі,
Вочы — вугалю кавалкі,
Нос — чарэпак з гладыша,
Барада — шматок кудзелі,
А на лысіну надзелі
Кош замест капелюша.



Ну і дзед! Відаць, яму
Тут стаяць усю зіму.
Будзе ён тут па начах
Наганяць на зайцаў страх,
Каб не бегалі сюды
Сад псаваць наш малады.

**Глады́ш** — пасудзіна, збан без ручкі.
**Кудзе́ля** — валакністая частка лёну.
**Чарэ́пак** — абломак, асколак разбітай глінянай, чыгуннай, шкляной пасудзіны.

?!

1. Які настрой выклікаў у вас верш паэта Ніла Гілевіча «Снежны дзед»?
2. Уявіце сабе снежнага дзеда і намалюйце яго слоўны партрэт.
3. Прачытайце верш выразна, перадаючы радасць, захапленне дзяцей. Рабіце паўзы пры знаках прыпынку.
4. Ці спадабаўся вам малюнак мастака да верша? Чаму?
5. Які малюнак да тэксту зрабілі б вы?

## Загадка

### Загарэліся сумёты

*Васіль Зуёнак*

Загарэліся сумёты,
І вярба гарыць ля плота.
Кот на печы не ляжыць —
Як мага хутчэй бяжыць.
Ведае хітрун стары:
Прыляцелі ... .

1. Прачытайце і адгадайце загадку.
2. Зрабіце да яе малюнак.

**Сумёт** — намеценая ветрам гурба снегу.

ра-спу-шы́ў-шы, пры-гну́ў-шы, па-пі́-ска-ва-нне, на-стру́-ніў-шы, збян-тэ́-жа-на-сці

### Прыгожая лісіца

*Алесь Асіпенка*

Узыходзіла сонца... Паляўнічы спыніўся, прыслухоўваючыся да цішыні. Раптам убачыў лісіцу на тым баку ракі. Яна бегла, распушыўшы хвост і нізка прыгнуўшы галаву. Нечакана спынялася, разграбала лапамі снег, кідалася ў бакі, нібы гуляла сваім хвастом. Лісіца мышкавала. Было відаць, што яе ахапіў паляўнічы азарт.

Не чуючы бяды, яна набліжалася да рэчкі. На яркай белі асветленага сонцам снегу асабліва выразна відаць быў руды хвост.



«Чакай жа, галубка, я цябе заманю бліжэй», — падумаў паляўнічы. Ён прыладзіўся паміж дзвюх хваін і пасвістваў, пераймаючы мышыны піск.

Лісіца доўга не звяртала ўвагі на яго папісканне. Потым стала, наструніўшы цела, і раптам пайшла, нюхаючы паветра. Час ад часу яна спынялася. Можа, ёй здавалася, што гэта пішчаць не мышы, а нехта яшчэ. Але паляўнічы ведаў, што лісіцу ахапіў азарт. Цяпер яна не адступіцца, пакуль не знойдзе месца, дзе хаваюцца мышы-палёўкі.

Праз заснежаныя лапкі хваін паляўнічы добра бачыў лісіцу. Асветленая сонцам, яна была прыгожая ў сваім рыжым уборы. Вось яна падышла да берага

ракі, навастрыла вушы. Паляўнічы зноў хуценька піскнуў разы два. Ён не зводзіў вачэй з лісіцы. Да яе было метраў пяць, не больш.

Лісіца задрала вострую мордачку. Яна не магла зразумець, чаму палёўка пішчыць уверсе. І раптам рыжая сустрэлася чорнымі вачамі з вачамі чалавека. Паляўнічы бачыў у лісіных вачах толькі цікаўнасць — ні страху, ні збянтэжанасці. Так вочы ў вочы глядзелі некалькі імгненняў чалавек і звер. Паляўнічы трымаў стрэльбу, але забыўся на яе. Лісіца паматала галавой і зноў паглядзела на чалавека. Яго разбіраў смех.

— Здарова, рыжая, — сказаў паляўнічы. — Як справы? Гуляеш?

Лісіца кінулася ўбок, пабегла, падмятаючы хвастом парошу.

— Уцякай, уцякай, рыжая, — крычаў ёй наўздагон паляўнічы.

Але лісіца не прыбаўляла кроку.

Пашкадаваў яе чалавек. Такая прыгожая, што рука не паднялася.

**Збянтэ́жанасць** — разгубленасць.
**Мышкава́ць** — лавіць мышэй.

1. Прачытайце, як мышкавала лісіца. Як паляўнічы заманьваў яе?
2. Якім вы ўяўляеце гэтага звера? Знайдзіце ў тэксце яго апісанне.
3. Які самы напружаны момант у апавяданні?

4. Ці хваляваліся вы за лясную прыгажуню? Калі?
5. Што сказаў чалавек лісе? Прачытайце.
6. Чаму паляўнічы не выстраліў? Які ён чалавек?

## Пісьмо птушак

*Аляксей Пысін*




Лёг сняжок пушысты,
Белы, як папера,
А на снезе птушкі
Ў каляровым пер’і.

Цэлую гадзіну
Дзеці прастаялі.
Што гэта за знакі —
І не адгадалі.

Снегіры, сініцы,
Галкі-забіякі
На паперы гэтай
Пакідаюць знакі.

Падышоў дзядуля,
Акуляры — у рукі:
— Зараз адгадаем,
Дарагія ўнукі.

Гэта пішуць птушкі:
У іх няма кармушкі,
Просяць хоць бы трошкі
Зерняў, хлебных крошак.

1. З чым параўноўваецца снег? Чаму?
2. Якія знакі птушкі пакідаюць на снезе? Чаму?
3. Знайдзіце ў тэксце і прачытайце, як дзядуля растлумачыў гэтыя знакі.
4. Аб чым прасілі птушкі дзяцей? Раскажыце.
5. Як вы разумееце назву верша?
6. Ці дапамагаеце вы птушкам зімой? Як вы гэта робіце?

## З Новым годам

*Кандрат Крапіва*

Год за годам — карагодам,
І ўжо сёння з Новым годам
Я сардэчна, ад душы
Вас віншую, малышы!
А чаго ж я вам жадаю?
Зараз, зараз прыгадаю...
Каб бадзёрымі былі вы,
Каб разумнымі раслі вы,
Каб прынёс вам Новы год
Многа радасных прыгод
І здароўя ў вашы хаты, —
Каб былі здаровы самі,
Каб былі здаровы мамы,
Каб былі здаровы таты,
Каб не ведалі напасці,
Каб і я за вас быў рад.
З Новым годам!

З новым шчасцем!
Вас віншуе дзед Кандрат.

**Напáсць** — бяда, няшчасце.

1. Перачытайце верш і адкажыце, чаго жадае вам Кандрат Крапіва?
2. Якое яго пажаданне вам больш за ўсё спадабалася?
3. Што б вы пажадалі сваім родным, сябрам? Раскажыце.

## ПАРАЗВАЖАЙЦЕ НАД ПЫТАННЯМІ

1. У чым чароўнасць зімы? У якіх творах вы прачыталі пра гэта?
2. Якімі словамі можна ахарактарызаваць зіму?
3. Чым вам падабаецца зіма?
4. Якія зімовыя гульні вы ведаеце?
5. Як вы можаце дапамагчы птушкам зімой?
6. Якіх птушак вы часта бачыце каля дома?
7. Дзе снег глыбейшы: у полі ці ў лесе? Чаму вы так лічыце?

# СЦЕЖКІ ДЗЯЦІНСТВА



## Дзеці

*Артур Вольскі*

Розныя дзеці
жывуць на планеце —
белыя,
жоўтыя,
чорныя дзеці.

Розныя дзеці —
аднолькавы смех.
Смех у хвіліны
забаў і пацех.

Розныя дзеці —
і розныя вочы.
Вочы —
як неба.
Вочы —
як ночы.

Вочы, што мора
ўвабралі глыбіні,
вочы —
пад колер
бязводнай пустыні.

Розныя вочы —
адзіныя слёзы.

Слёзы
ў хвіліны
бяды ці пагрозы.

Вось бы зрабіць,
каб на нашай планеце
гора не ведалі
розныя дзеці.

Вось бы зрабіць,
каб у розных дзяцей
радасць гасціла
даўжэй
і часцей.

Хай жа ідуць
у сусветную шыр
Роўнасць,
Свабода,
Праца
і Мір!

**Пацéха** — забава, весялосць.
**Сусвéтны** — які распаўсюджваецца на ўвесь свет.

1. Які настрой выклікаў у вас верш?
2. Што аб'ядноўвае ўсіх дзяцей на планеце?
3. Прачытайце, з чым параўноўваюцца дзіцячыя вочы. Які колер вачэй у дзяцей?
4. Калі ў розных вачэй «адзіныя слёзы»? Знайдзіце адказ у тэксце.
5. Што трэба для таго, каб дзеці ўсёй Зямлі былі шчаслівыя? Паразважайце.

6. У якіх радках верша выказана яго галоўная думка?
7. Як вы разумееце словы *роўнасць, свабода*?

! па-ды-ма́-цца, прый-шло́-ся, за-хва-ля-ва́-ла-ся, па-дзя́-ка-ва-ла

## Добрае слова

*Алесь Пальчэўскі*

У трамвай праз пярэднія дзверы ўваходзіў старэнькі дзядок. Хлопчык убачыў, як цяжка падымацца старому чалавеку з нізкай прыступкі. Ён усхапіўся з лаўкі і падаў руку. Дзядуля падзякаваў.

— Сядайце, калі ласка, на маё месца, — паказаў хлопчык на лаўку.

— Сядзі-сядзі. Мне недалёка ехаць.

Хлопчык быў настойлівы:

— Ну я вас прашу, дзядуля, сядайце.

Прыйшлося паслухацца. Дзядуля сеў, прыхіліў хлопчыка да сябе і спытаў:

— Як жа цябе зваць?

— Юра.

— Харошае імя, — пахваліў дзядуля.

— У якім жа ты класе, хлапчына, вучышся? — зірнуў дзядуля на Юраў партфель.

— У трэцім.

— Малайчына. Старайся, старайся. Ну, мне скора выходзіць. Ты куды — у школу ці са школы едзеш?

— У школу, на другую змену. Мы пераехалі ў новы раён, а трэці клас я канчаю там, дзе жылі раней.

— Настаўнік ці настаўніца вучыць цябе?

— Настаўніца.

— Сядай на маё месца, — устаў дзядуля, — і перадай настаўніцы дзякуй. Скажы — ад дзядулі Сцяпана Міхайлавіча.

— Вы ведаеце нашу Вольгу Пятроўну?! — здзівіўся Юра і сеў на лаўку.

— Не. Але ты перадай ад мяне дзякуй, прашу цябе! — ужо з прыступкі гукнуў дзядуля.

«А за што перадаць дзякуй незнаёмай настаўніцы? — паціснуў плячамі Юра. — Прывітанне і тое знаёмым толькі перадаюць, а тут — дзякуй...»

Настаўніца ўвайшла ў клас, і Юра перадаў ёй дзядулеву падзяку. Вольга Пятроўна распытала, дзе і калі гэта было, трошкі захвалявалася і падзякавала вучню за прынесенае добрае слова.

А за што ўсё ж дзякаваў дзядуля настаўніцы? Можа, ты ведаеш?

?!

1. Чым спадабалася вам апавяданне?
2. Як сябе паводзіў Юра ў трамваі? Раскажыце.
3. Пра што пытаўся ў яго дзядуля?
4. Што можна сказаць пра Юру? Які ён?
5. Чаму дзядуля перадаваў дзякуй настаўніцы? А каму яшчэ варта сказаць «дзякуй»?
6. Чаму апавяданне называецца «Добрае слова»?

## Чатыры пажаданні

*Васіль Вітка*

Добра, калі ты змалку
Можаш вітаць людзей.
Раніцай:
    — Добрага ранку!
    І апаўдня:
    — Добры дзень!

Увечары пры сустрэчы
Знаёмым сказаць:
    — Добры вечар!
І соннаму сонейку нанач,
І ўсім добрым людзям:
    — Дабранач!

1. Што можна сказаць пра аўтара верша «Чатыры пажаданні»? Які ён чалавек?
2. Пералічыце ветлівыя словы з гэтага верша.
3. Ці ўжываеце вы іншыя ветлівыя словы? Якія? Калі?

ле-дзя-ны́-я, ры-зы-ка-ва́ў

## Хлопчык і Кацянё

*Эдуард Валасевіч*

Ёсць людзі добрыя, ёсць людзі злыя...
Напэўна, хтосьці з чорнаю душой
Укінуў ранняю вясной,
Калі імчалі крыгі ледзяныя,

У ваду сцюдзёную малое Кацянё,
І плакала яно, як дзіцянё:
— Мяў! Мяў! Ратуйце! Мяў, дапамажыце!
Мне холадна, баюся я вады...
— О бедненькі!.. — усклікнуў хлопчык Міця. —
Трымайся, брат! Я выручу з бяды!
І мігам
Ён скочыў з берага на крыгу
І Кацянё малое ўратаваў.

* * *

Мне скажуць: — Міця так рызыкаваў...
— Мажліва.
Затое ён расце адважны і чуллівы,
Таварыша ў бядзе —
Не падвядзе!

**Мажлі́ва** — магчыма.
**Рызыкава́ць** — ставіць пад небяспеку сваё жыццё, рабіць рызыкоўны ўчынак.
**Чуллі́вы** — спачувальны.

1. Што здарылася з Кацянём?
2. Як вы ацэньваеце ўчынак Міці? Чаму ён уратаваў Кацянё? Ці ўратаваў бы Міця Кацянё, калі б у першую чаргу думаў пра сябе?
3. Які Міця па характару (спагадлівы, вясёлы, адважны, чуллівы, злы, абыякавы, скупы і інш.)?
4. Ці можа хлопчык быць добрым сябрам? Чаму вы так думаеце?

5. Як вы разумееце выраз: «хтосьці з чорнаю душой укінуў… у ваду сцюдзёную малое Кацянё»?
6. Пра якога чалавека кажуць, што ў яго «чорная душа»?
7. Што б вы сказалі чалавеку з «чорнай душой» пры сустрэчы?
8. Падумайце, якія пачуцці трэба перадаць пры чытанні верша.
9. Успомніце або прыдумайце прыказку пра сяброўства.

## Скорагаворка

Каток нітак клубок закаціў у куток.

## Сівая валасінка

*Васіль Сухамлінскі*

Міхась убачыў у матчынай касе тры сівыя валасінкі.

— Мама, у вас у касе тры сівыя валасінкі, — сказаў ён.

Мама ўсміхнулася і нічога не адказала.

Праз колькі дзён Міхась глянуў на матчыну касу і ўбачыў у ёй чатыры сівыя валасінкі.

— Мама, — сказаў Міхась са здзіўленнем, — у вас у касе чатыры сівыя валасінкі... А было ж толькі тры. Чаму ж пасівела яшчэ адна?

— Ад болю, — адказала мама. — Калі баліць матчына сэрца, тады і валасінка сівее.

— А ад чаго ж у вас сэрца балела?

— Памятаеш, ты палез на высознае-высознае дрэва... Я зірнула ў акно, убачыла цябе на тоненькай галінцы. Сэрца забалела, і валасінка пасівела...

Міхась доўга сядзеў задумлівы, маўклівы. Потым ён падышоў да маці, абняў яе і пацiху спытаўся:

— Мама, а калі я на тоўстай галіне буду сядзець — валасінка не пасівее?

1. Што ўбачыў Міхась?
2. Чаму ў мамы з’явіліся новыя сівыя валасінкі? Знайдзіце адказ у тэксце і прачытайце.
3. Як мама растлумачыла Міхасю з’яўленне сівых валасінак? Ці зразумеў яе хлопчык?
4. Падумайце і адкажыце сваімі словамі, што трэба рабіць, каб не сівелі валасы ў маці.
5. Раскажыце пра сваю маму. Якая яна?

## Маміны рукі

*Паўлюк Пранузa*

Маміны рукі самыя лепшыя:
Няньчылі, гушкалі, лашчылі першыя.
Маміны рукі сардэчныя, смелыя,
Маміны рукі самыя ўмелыя.
Маміны рукі — рукі шчаслівыя.
Маміны рукі заўсёды цярплівыя.
Маміны рукі самыя светлыя,
Маміны рукі самыя ветлыя.

**Ве́тлы** — ласкавы, прыветны.

1. Якімі словамі апісвае паэт рукі маці? Знайдзіце гэтыя словы і прачытайце.
2. Растлумачце, як вы разумееце наступныя выразы: «рукі сардэчныя, смелыя», «рукі шчаслівыя», «рукі цярплівыя», «рукі ветлыя».
3. Вывучыце верш на памяць.

змо́р-шчын-ках, па-дпіль-на-ва́ць, па-дмí́р-гва-юць

## Пра казачных чалавечкаў

*Ядвіга Бяганская*

Мароз намаляваў на шыбах акон свае дзівосныя белыя ўзоры, рассыпаў вясёлыя агеньчыкі. Шуміць за сцяной вецер, гудзе-падвывае ў коміне.



— Бабуля, раскажы нам казку, — просіць Зося.

— Толькі вясёлую, бабуля, такую, каб вецер перастаў скуголіць ды каб сон харошы прысніўся, — гаворыць Толік.

Бабуля адкладвае ўбок шытво. Добрая ўсмешка расплываецца ў яе тонкіх зморшчынках.

— Якую ж вам казку расказаць? — пытае бабулька. — Раскажу вам хіба пра маленькіх казачных чалавечкаў. Ну дык вось, слухайце. Жыў ды быў на свеце адзін шавец, — пачала сваю казку бабуля. — І так ён збяднеў, так збяднеў, што застаўся ў яго толькі невялікі кавалак скуры. «Выкраю я з гэтай скуры пару чаравікаў, а заўтра раніцай вазьмуся за шытво», — падумаў шавец і лёг спаць. Раніцай ён устаў і хацеў ужо за работу ўзяцца, аж бачыць — стаяць у яго на стале гатовыя чаравікі, ды такія прыгожыя, якіх ён зроду не бачыў. Прадаў шавец чаравікі і купіў на гэтыя грошы тавару, з якога скроіў аж тры пары чаравікаў. Раніцай устаў, а чаравікі зноў стаяць гатовыя. Так і пайшло з таго часу — колькі пар чаравікаў скроіць шавец — раніцай яны стаяць гатовыя. «Трэба падпільнаваць, хто гэта ўначы мне чаравікі шые», — падумаў шавец. Схаваўся ён за печ і чакае. І вось апоўначы з'явіліся маленькія чалавечкі, селі за шавецкі столік і пачалі шыць чаравікі. А як скончылі работу, адразу зніклі.

* * *

Шмат цікавага расказала бабулька ў гэты вечар пра маленькіх казачных чалавечкаў.

— Бабулька, а ты б хацела мець такіх памочнікаў? — запытаў Толік.

— Вядома, унучак, хацела б, — сказала бабуля...

Лежачы ў сваім ложку, Зося пазірала на далёкія ясныя зоркі і думала пра маленькіх казачных чалавечкаў. «А што, калі я і Толік...»

Праз хвіліну Толік ужо сядзеў побач з сястрой на яе ложку. Аб чым яны шапталіся — невядома...

А раніцою ўстала бабуля, сабралася ісці па дровы, а яны ўжо ляжаць каля печы. Хацела яна па ваду да студні пайсці — аж вада сама ў хату прыйшла: стаіць вядро на лаве поўным-паўнюткае ды сваім блакітным вокам на гаспадыню пазірае. Выйшла бабуля на ганак і вачам не верыць: нехта на сцежках снег паразмятаў ды пясочкам іх прысыпаў, каб не коўзка было хадзіць. Пайшла яна пасля снедання па малако да суседкі, а пакуль хадзіла, нехта са стала прыбраў і падлогу падмёў.

Дзівіцца бабуля, галавой ківае, усміхаецца, а Зося з Толікам за ёю цішком назіраюць ды хітра падміргваюць адно аднаму. Цікавую гульню прыдумала Зося.

І бабуля рада, што ў яе з'явіліся маленькія казачныя чалавечкі.

**Гаспады́ня** — уласніца, уладарка.
**Ко́мін** — труба для адводу дыму з печы.

**Ко́ўзка** — слізка.
**Падпільно́ўваць** — падсцерагаючы, чакаць з’яўлення каго-, чаго-небудзь.
**Сту́дня** — калодзеж.
**Хіба́** — магчыма.
**Чараві́кі** — абутак.
**Шы́ба** — кавалак шкла, устаўлены ў аконную раму.

1. Ці спадабалася вам казка, якую рассказала бабуля ўнукам?
2. Як вы думаеце, аб чым шапталіся Зося і Толік, калі клаліся спаць?
3. Знайдзіце і прачытайце, што за дзівы бабуля ўбачыла раніцай.
4. Якую гульню прыдумала Зося? Што можна сказаць пра дзяцей, якія яны?
5. Знайдзіце ў казцы Ядвігі Бяганскай «Пра казачных чалавечкаў» словы, выразы, якія характарызуюць дзяцей.
6. Дайце загаловак кожнай частцы апавядання.
7. Ці дапамагаеце вы сваім бацькам, бабулі? Раскажыце, што вы робіце.
8. Падбярыце словы з супрацьлеглым значэннем:

   Добры — дрэнны.
   Вясёлы — … .
   Працавіты — … .
   Моцны — … .

Словы-памочнікі: *слабы, лянівы, сумны*.

# Параска і падказка

*Эдзі Агняцвет*



— Скажы, Параска,
Калі ласка,
Якую ты чытала казку?

Параска думае: «Ой, ой,
Я ж не чытала ні адной!»

Хтось шэпча ў класе:
— Курка Раба...
Параска кажа:
— Мурка-жаба.
Хтось шэпча:
— Журавель і чапля.
— Я помню:
«Муравей і шабля».

— Скажы, Параска, калі ласка,
Якіх ты ведаеш звяроў? —
Тут чхнуў яе сусед Пятроў.
Яму шапнулі:
— Будзь здароў!
Параска, не дачуўшы слоў,
Сказала:
— Ведаю кароў.

— Вось дык цікава, звер — карова!
Скажы нам,

Без якога слова
Пражыць не можаш ані дня?

Маўчыць Параска... Цішыня...
Глядзіць яна ва ўсе бакі.
Глядзіць на столь і на падлогу,
Хто прыйдзе ёй на дапамогу?

Знайшоўся жартаўнік такі,
Што гучна прашаптаў:
— Падказка.
— Падказка! —
Крыкнула Параска.

А я не ведаю, браткі,
Ці гэта быль,
Ці гэта казка.

**Столь** — верхняе ўнутранае пакрыццё памяшкання, процілеглае падлозе.

1. Ці было вам весела, калі вы чыталі верш? Чаму?
2. Прачытайце найбольш вясёлыя радкі верша.
3. Падабаецца вам Параска? Ці хацелі б вы з ёй сябраваць? Чаму?
4. Намалюйце слоўны партрэт дзяўчынкі. Якая яна?
5. Прачытайце, як праз сваю ляноту была пакарана дзяўчынка.
6. Што асуджаецца ў творы?

7. Размяркуйце ролі і прачытайце верш па ролях. Падумайце, з якой інтанацыяй трэба чытаць пытальныя і клічныя сказы.
8. Складзіце прыказку са слоў: *не спадзявайся, старайся, а сам, добра вучыцца, на падказку.*

## Сустрэча

*Іван Вярыга*

Усе дзеці са школы пайшлі дарогай, а Саўка — нацянькі. Што яму! Праз новыя глыбокія галёшы вады не набярэш, а балота ён па жардзінках пройдзе, не зваліцца.

«Прыйду дамоў, — радаваўся хлопчык, — і адразу скажу тату: — Бяры заўтра мяне на паляванне. Дзясятка па матэматыцы. Ды якая! Па кантрольнай».

Жардзінкі аказаліся слізкімі ад ільду, і Саўка быў ужо не рад, што пайшоў сюды. Асцярожна ступаючы і балансуючы рукамі, ён павольна прасоўваўся ўперад. Раптам ля самага канца балота насустрач Саўку выскачыў суседскі сабака Тузік, з якім ён часта дурэў.

— Чаго цябе панесла сюды? Дарогі не ведаеш, ці што? — узлаваўся хлопчык. — Ага! Ніяк назад не павернешся. Вось цяпер і лезь у гразь. Бачыў, што я іду, — пачакаць трэба было.

Тузік вінавата глядзеў хлопчыку ў вочы.

— Ну, давай назад! — загадаў Саўка.



Сабака матнуў галавой і ўздрыгнуў усім целам.

— Ведаю, як табе не хочацца лезці ў гразь, але нічога не зробіш, — ужо больш лагодна сказаў хлопчык. — Мне ніяк нельга вяртацца. Тады я тату не застану, ды і з кладкі зляцець можна. Я ледзьве сюды дабраўся.

Тузік, нахіліўшы галаву, уважліва слухаў, быццам разумеў кожнае слова.

— Ну, чаго вушы развесіў? — павысіў голас Саўка. — Давай! А то вазьму і скіну.

Хлопчык выставіў наперад рукі. Тузік прысеў на заднія лапы і жаласна заскавытаў.

Саўка задумаўся на хвіліну, уздыхнуў і рашуча ступіў у гразь.

Тузік завіляў хвастом і пабег далей па жардзінках.

— Глядзі ж, не зваліся! — крыкнуў яму наўздагон Саўка.

Ледзяная брудная вада адразу прасачылася ў чаравікі, і, каб хутчэй выбрацца на сухое, хлопчык пашлёпаў па гразі, ужо не выбіраючы дарогі.

Дома Саўка сказаў бацьку:

— Шкада мне яго стала. Сам падумай: я магу пераабуцца, на печы пагрэцца, а Тузік усю ноч будзе трэсціся ў халоднай будцы. Яшчэ захварэе.

**Жардзі́нка** — тонкая палачка на кладцы.
**Заскавыта́ць** — пачаць жаласна павіскваць.
**Лаго́дна** — дабрадушна, пяшчотна.

?!

1. Раскажыце, як Саўка сустрэўся з Тузікам.
2. Чаму Саўка саступіў у гразь?
3. Прачытайце, што хлопчык сказаў бацьку, калі вярнуўся дадому.
4. Што вы думаеце пра ўчынак Саўкі?
5. Як бы вы паступілі на месцы хлопчыка? Чаму?
6. Ці ёсць у вас дома сабака? Раскажыце пра яго.

## Загадка

Жыве пад ганкам,
хвост абаранкам,
хату вартуе,
з людзьмі сябруе.

! а-тры-ма́-е-цца, па-да-ко́-нні-ка, а-ддзя́-чыць

## Падарунак

Бацька прынёс з лесу вавёрачку. Дзіўна, але яна адразу стала ручной — лёгка ішла на рукі, брала з далоні семкі, арэшкі, хлеб.

— Малое — дурное, — жартаваў бацька і дазволіў Івану выхоўваць яе так, як атрымаецца. Іван так і выхоўваў яе, а правільней, дазваляў ёй рабіць усё, што яна хацела.

Вавёрачка нікога і нічога не баялася — ні людзей, ні Мурзіка, ні кошкі. За лета вавёрачка вырасла, поўсць яе распушылася, стала бура-серабрыстая, бліскучая, а хвост што той шалік: лягла і накрылася. Іван расчыняў акно ў сад, і вавёрачка лёгка пераскоквала з падаконніка на галінкі. Але варта было Івану ціхенька пасвістаць — цю-цю-цю! — і яна зноў тут, ля акна.

З часам у вавёрачкі з'явілася тайна — яна пачала хавацца. Тут ёсць — тут няма. І ніхто, нават Іван, не ведаў яе схованкі. Вось толькі што была на вачах, а тут раз — і прапала. Можна было скалануць увесь дом, а яе не знойдзеш. Потым раз, як з неба, — скок! — і сядзіць ужо на плячы. Смех дый годзе!

Пад восень вавёрачка пачала затрымлівацца ў садзе даўжэй і даўжэй. Але Івана гэта не турбавала: нікуды не дзенецца, захоча есці — вернецца. І праўда, вярталася. Потым маці ўбачыла ў садзе не адну,

а дзвюх вавёрачак: яны гулялі, скакалі адна за адной, весяліліся.

Начавацьь вавёрачка прыйшла гэтым разам дамоў. Але назаўтра нанач не вярнулася. Не вярнулася яна і на другі, і на трэці дзень.

Пагараваў, пагараваў Іван і зміры ўся: што ж, мусіць, вавёрачка пайшла дамоў, у свой лес. А паколькі іх бачылі ў садзе ўдзвюх, то ёй не будзе там сумна, не прападзе. Суцяшаў яго гэткімі словамі і бацька: «Кожны любіць волю — і чалавек, і звер».

Надышлі халады, трэба было цёпла апранацца, і Іван успомніў пра новае паліто, што яны летам купілі разам з маці. Яно ўвесь час вісела на вешалцы за печчу.

Зняў Іван паліто з вешалкі, сунуў руку ў рукаў, адтуль, як з мяшэчка, пасыпаліся арэхі, цукеркі. «Ну і вавёрачка, ну і малайчына! — падумаў Іван. — Гэта ж, мусіць, так яна вырашыла аддзячыць за ўсё добрае, што зрабіў для яе».

Надзеў Іван паліто, павярнуўся перад маці, — тая і рукамі ўспляснула. На спіне, якраз насупраць рукава, у паліто была аккуратна прагрызена круглая, велічынёю з яблык, дзірка. А за ёю, у рукаве, вата, саломінкі, ніткі — сапраўднае ўтульнае гняздзечка. Дык вось куды хавалася вавёрачка, дык вось чаму ніхто не мог яе знайсці.

*Паводле Анатоля Кудраўца*

?! 1. Ці спадабалася вам апавяданне? Чым?
2. Якой вавёрачка стала за лета? Прачытайце.

3. Якая тайна з’явілася ў вавёрачкі? Раскажыце.
4. Прачытайце, што здарылася з вавёрачкай восенню.
5. Раскажыце, які «падарунак» знайшоў Іван у сваім паліто?
6. Які малюнак вам хочацца зрабіць да тэксту?
7. Ці ёсць у вас дома якая-небудзь жывёліна? Раскажыце пра яе.

## Пераблыталіся словы

*Пятро Сушко*

На траве
Блішчыць каса,
Свішча
Вострая раса.

Баўтануўся ў рэчцы
Шпак,
У садку
Пяе шчупак.

Узляцеў
На пеўня плот,
Збег ад мышкі ў норку
Кот.

Села кветка
На пчалу,
Спілаваў дубок
Пілу...

Перablыталіся словы.
Хто
Разблытаць іх
Гатовы?

1. Выпраўце памылкі ў вершы, каб быў зразумелы яго сэнс.
2. Знайдзіце рыфмаваныя словы: *каса — раса*, *словы — гатовы ...* .

## Хто вінаваты?

*Алесь Жук*

Хлопчык ніяк не мог зразумець, чаго ад яго хочуць.

Што ён, урэшце, такое зрабіў? Вазу крыштальную разбіў? Ці новую мэблю цвіком падрапаў?.. Падумаеш, у абед скарыначкай хлеба запусціў у Рубіка — сабачку, якога падарыў яму тата. Ды і зрабіў гэта не са злосці. А так, каб не сумна было абедаць. Рубік збег з пакоя ў кухню, а ён — раз! — і кінуў. Вось і ўсё. І болей нічога.

Толькі дзядуля з бабуляй чамусьці адразу перасталі есці, а потым дзядуля ціха сказаў:

— Прасі прабачэння...

Хлопчык незадаволена надзьмуўся, але вылез з-за стала, падышоў да дзядулі з бабуляй і, гледзячы ў падлогу, прамармытаў:

— Даруйце... Я болей не буду...

— Не-не, — паспяшаўся спыніць хлопчыка дзядуля. — Не ў нас, а ў яго прасі прабачэння...

Хлопчык падышоў да Рубіка, які зашыўся ў кут каля дзвярэй і вінаватымі вачыма сачыў за ўсім, што адбывалася на кухні.

— Даруй мне, Рубік... Я болей не буду...

Але дзядуля зноў яго перапыніў:

— Не-не... Ты і зараз, мусіць, не зразумеў. У хлеба прасі прабачэння... У хлеба...

І вось гэтага хлопчык ніяк не мог зразумець. Можа, ён недачуў? Ці, можа, дзядуля агаварыўся?

А дзядуля быццам здагадаўся пра яго думкі, яшчэ раз пацвердзіў свае словы:

— Так-так, у хлеба... Падымі і прасі прабачэння...

Як можна прасіць прабачэння ў хлеба? Ён жа — нежывы! Не дыхае і не размаўляе. Не смяецца і не плача... Гэта ў людзей можна прасіць прабачэння. Ну, няхай нават у жывёл, у птушак — яны таксама жывыя. А ў хлеба?.. Ён кожны дзень бачыць, як кідаюць хлеб у скрынкі для смецця, проста на зямлю, у гразь... І ніхто не просіць прабачэння. А калі так робяць, значыць, хлеб — дробязь. Усё адно як той камень ці пясок... Адным словам — мёртвая рэч! А тут — прасі прабачэння...

Хлопчык падняў скарыначку і заплакаў: ён не ведаў, за што павінен прасіць прабачэння ў хлеба.

А хто вінаваты?

1. Вызначце, хто распавядае ў творы: аўтар ці герой.
2. Чым былі незадаволены дзядуля з бабуляй?
3. Чаму яны патрабавалі, каб хлопчык папрасіў прабачэння ў хлеба?
4. Як да іх патрабавання ставіўся хлопчык? Чаму ён плакаў?
5. Адкажыце на пытанне «А хто вінаваты?»
6. Паразважайце, чаму трэба з павагай ставіцца да хлеба.
7. Як называюць людзей, якія вырошчваюць хлеб, выпякаюць яго?
8. Успомніце або прыдумайце загадку пра хлеб.

## Хлебная скарынка

*Авяр'ян Дзеружынскі*

Пахне хлебная скарынка
Цёплым ветрыкам,
Хваінкай,
Летнім дождж ыкам
Грыбным,
Лугам,
Полем аржаным
І асенняй пазалотай
Ды натхнёнаю работай.



**Натхнёны** — захоплены.

Вывучыце верш на памяць.

## Прыказкі

- Папрацуеш да поту і з'ясі ў ахвоту.
- Добра працуеш — павагу маеш.

## ПАРАЗВАЖАЙЦЕ НАД ПЫТАННЯМІ

1. Якія творы з гэтага раздзела вам найбольш спадабаліся, зацікавілі вас? Чым?
2. Пры чытанні якіх твораў вам было смешна, радасна, сумна? Чаму?
3. Якія мудрыя ўрокі вы атрымалі з дапамогай апавяданняў? Раскажыце.
4. Раскажыце пра цікавы выпадак з вашага жыцця.

# БАГАТА ВЯСНА КВЕТКАМІ, А ЛЕТА — ГУЛЬНЯМІ



! ня-гле́-дзя-чы, не-цяр-плі́-вы-я, па-пя-рэ́-джва-ла, ска́р-дзі-ла-ся, у-зды-хну́-ла, а-бна-дзе́й-ва-лі, па-дба-дзёр-ва-ла, жаў-та-гру́-дых, ле-гка-кры́-лы-я, па-кры́ў-дзі-ла-ся

## Вясна спазнялася

*Алена Багамолава*

Сумныя дрэвы, сумныя на дрэвах вавёркі, сумныя ў вавёрак вочкі.

Нягледзячы на сум, які панаваў у прыродзе, жыццё ішло: дні рабіліся даўжэйшыя, сонца цяплейшае, вецер мякчэйшы.

Але да кветак і сапраўднага цяпла яшчэ было далёка... Снежны панцыр трывала моцнымі рукамі ўчапіўся ў прамерзлую за доўгую зіму зямлю і маў-

чаў. Сонца супакойвала, абяцала: вось-вось ён пачне злавацца, вось-вось ён заплача, вось-вось...

Цікаўна-нецярплівыя вавёрачкі чакалі: «Калі ж?» Яны ўсё часцей паказваліся з дупла, і тады вавёрчына маці папярэджвала, каб не ішлі далёка, каб не скакалі доўга, каб хутчэй вярталіся. Вавёркі доўга не скакалі, яны вярталіся — былі паслухмяныя. Толькі вясна не слухалася, не ішла, спазнялася...

— Ты ведаеш, — скардзілася асінка, — да мяне гэтай зімою так часта зайцы прыбягалі! Не магла ж я іх не частаваць — мая кара маладая, смачная. Канешне, трохі і шкада. Але ж зайцы не вінаватыя, гэта ўсё — зіма, яна такая марозная сёлета...

— А якая доўгая! — падтрымала суседку бярозка. — Мінулай вясною ў гэты час я ўжо ўсіх сокам частавала, ужо пралескі вакол мяне карагоды вадзілі, а цяпер... — уздыхнула і сцішылася.

І вось вясна спазнялася. Часам абнадзейвалі сінічкі, іх ціньканне падбадзёрвала, і верылася, што зімовую сонную цішыню заменіць веснавое шматгалоснае суладдзе.

— Цінь-цілінь, — казала адна сінічка другой. — Гучней, мацней!

— Цілінь-цінь, — адгукалася другая. — Весялей, званчэй!

Вавёрачкам асабліва падабаліся гэтыя пералівы-пераклічкі жаўтагрудых сястрычак-сінічак.

Вясна спазнялася...

Але рыбы ў вадзе праз крыштальна-ледзяную кальчугу бачылі ярка-ўсмешлівае сонца, легкакрылыя аблачынкі.

— Ці бачыў ты, шаноўны, — пацікавілася лініха ў Карпа Карпавіча, — такое дзіва: месяц вясны прайшоў, але змен ніякіх — лянуецца вясна, лянуецца...

— Памаўчы! Вясна спазняецца. Зіма якая была! Даўно такой не было.

Вясна спазнялася, але ўсё жывое чакала яе галасоў, яе пахаў, яе фарбаў, яе цяпла.

— А калі вясна пакрыўдзілася? — каркнула варона.

— Не каркай! Не каркай! — з перапуду затрашчалі сарокі.

І раптам...

— Цінь-цілінь! Ідзе-ідзе!!! — абвясцілі сінічкі.

І тут зазвінелі капяжы так часта і так моцна — не вытрымаў снежны панцыр. Не вытрымаў, заплакаў... І хутка з'явілася першая вясновая пяшчота — белыя і сінія кветачкі кураслепу.

У нябесным блакіце з'явілася шэрая кропачка. Яна трымцела крыльцамі, нібыта баялася ўпасці на зямлю. І вось — кропачка заспявала так тонка, так пяшчотна.

Вясна прыйшла!

**З перапу́ду** — з перапалоху.
**Капяжы́** — кроплі талага снегу, якія падаюць са стрэх і дрэў.

**Панава́ць** — мець перавагу.
**Сула́ддзе** — гарманічнасць, згоднасць.

?!
1. Ці спадабалася вам апавяданне? Чым?
2. Чаму ў прыродзе панаваў сум? Знайдзіце адказ у тэксце, прачытайце.
3. Як да спазнення вясны ставіліся: дрэвы, вавёркі, птушкі, рыбы?
4. Чаму ж вясна спазнялася?
5. Хто першы заўважыў прыход вясны?
6. Ці змяніўся настрой апавядання і ваш з прыходам вясны?
7. Як вы думаеце, ці хораша пісьменніца Алена Багамолава расказала пра гэту цудоўную з'яву — прыход вясны? Прывядзіце доказы.

## Дапамажыце Антосю

Алеся прачытала маленькаму брату Антосю апавяданне пра тое, як спяваюць птушкі. Але Антось забыўся, хто як спявае. І пераказаў апавяданне пасвойму:

«Варона кудахча, курыца каркае, салавей кукуе, качка шчабеча, зязюля спявае, ластаўка кракае».

?!
1. Як вы думаеце, Антось правільна адказаў ці не? Чаму?
2. Адкажыце правільна: хто з птушак кудахча? каркае? кукуе? спявае? шчабеча? кракае?

## Жавароначкі, прыляціце

*Уладзімір Ягоўдзік*

Жаўрукі — найпершыя пасланцы вясны. На Беларусь яны вяртаюцца з выраю ў сярэдзіне сакавіка. Сонца яшчэ не паспела злізаць снег. Раніцою і ўвечары кусаецца мароз. А жаўрукі пяюць ужо, звіняць над полем і лесам, над вёскамі і гарадамі, вітаюць прыход вясны.

Іх у дружнай жаўруковай сямейцы — чытыры родныя браты.

Палявы.

Лясны.

Чубаты.

Рагаты.

Не бойцеся, у апошняга з братоў зусім не страшныя рожкі. Проста ў яго на галоўцы тырчаць пярынкі. Імі не надта напалохаеш драпежнага ястраба. Але жаўручок, як расказваюць старыя людзі, паднімецца з саломінкаю ў неба і спявае: «Пайду ястраба біць! Пайду ястраба біць!..»

Ды вось бяда — саломінка выпадае, і жаўрук каменем ляціць да зямлі. А па дарозе апраўдваецца: «Кій упаў! Кій упаў!..»

Цяжка жаўруку несці на малых крылах званочкі вясны. Але можна дапамагчы ім. Трэба папрасіць маму, каб яна напякла з цеста чубаценькіх пташак. Потым нядзелькаю выйсці на вуліцу, як мага вышэй падкідваць іх угору над сабою і спяваць:

— Жавароначкі, прыляціце,
Цёпла лецейка прынясіце!
Бо зімачка надаела,
Усе хлебушкі пераела!

Паспрабуй, мой маленькі сябар. І ты абавязкова, хоць на адну хвіліну, наблізіш прыход вясны-красны на родную зямлю.

1. Пра што новае, цікавае вы даведаліся з апавядання Уладзіміра Ягоўдзіка «Жавароначкі, прыляціце»?
2. Як пісьменнік называе жаўрукоў? Чаму?
3. Якія бываюць жаўрукі? Прачытайце.
4. Якія словы спявае жаўрук? Знайдзіце ў тэксце.
5. Прачытайце, як можна наблізіць вясну.
6. Паспрабуйце намаляваць жаўрука.

## Пралеска

*Авяр’ян Дзеружынскі*



Прыгрэла сонейка.
На ўзлеску
Птушыны спеў
Чуваць здаля...
Стаіць і слухае пралеска,
Як ціха дыхае зямля.

1. Уявіце карціну, апісаную ў вершы. Што вы намалюеце?

2. Чаму пра пралеску аўтар гаворыць як пра жывую істоту?
3. Як вы разумееце словы «дыхае зямля»?
4. Вывучыце верш на памяць.

## Вожык і ручаёк

*Іван Галубовіч*

Восенню, калі пахаладала, знайшоў вожык у глухой мясцінцы трухлявы пень, зрабіў у ім гняздо з лісця і заснуў.

Доўга спаў вожык ці не, сам не ведае. Але аднойчы пачуў, што нехта трывожыць яго: усё бубніць і бубніць непадалёку.

Высунуў пыску з гнязда, глядзіць — ручаёк весела журчыць.

— Прачнуўся сам і іншых будзіш, — папракнуў вожык. — А я не выспаўся яшчэ, ручаёк.

І зноў у гняздо паціснуўся, заснуў. Раніцаю вочкі расплюшчыў і зморшчыўся, быццам горкую пілюлю праглынуў. Увесь бачок — мокры.

Вылез з гнязда і бачыць: ручаёк пашырэў, да самага пня падступіўся.

— Ну, пачакай, назола! — зазлаваў вожык. — Я цябе зямлёю засыплю!

Хуценька перабіраючы ножкамі, падбег да ручайка, а той падхапіў яго і панёс.

Плыве вожык, ніяк да беражка прыстаць не можа.

А наўкола — вясна. Лёгкі туманок над зямлёю сцелецца. Падбел расцвіў, пралескі яснымі вочкамі ўсміхаюцца. У сінім небе жаваранкі спяваюць.

Вожык і пра злосць сваю забыўся. Выбраўся з вады на беражок, сказаў:

— Дзякуй, ручаёк! Каб не ты, я і вясну праспаў бы.

**Назóла** — той, хто дакучае.

1. Які настрой выклікала ў вас казка?
2. Перачытайце яе, знайдзіце незразумелыя словы. Падумайце, што яны азначаюць.
3. Чым быў незадаволены вожык?
4. Раскажыце, чаму спачатку вожыку не спадабаўся ручаёк.
5. Што зрабіў ручаёк? Прачытайце.
6. Што ўзрадавала вожыка? За што ён дзякаваў ручайку?

## Загадкі

* * *

Не званочак,
А звініць.
Ног не мае,
А бяжыць.
Як гарэза,
Скок ды скок:
Ён вясёлы ... .

* * *

Паўзун паўзе, іголкі вязе.

## Скорагаворкі

*Васіль Жуковіч*

### Сакавік

Люты ўцёк,
люты знік.
І пацёк
снегавік.
Дзе твой сок,
сакавік?

### Красавік

Красавік у родным краі
Краскі яркія збірае.

### Травень

Травень вырасціў траву.
Я траву кароўцы рву.

?!

1. Пра якія месяцы гаворыцца ў скорагаворках? Чым асаблівы кожны месяц?
2. Навучыцеся хутка чытаць скорагаворкі.
3. Выкарыстоўвайце іх у сваіх гульнях.

## Як сеялі абаранкі

*Іван Муравейка*

Мы за вёскаю гулялі.
Там два трактары аралі.
— Будзем сеяць абаранкі, —
трактарысты нам сказалі.

А Іванка засмяяўся:
— Цётка Ганна, дзядзька Вася!
Я сам бачыў — мама ўранку
пякла ў печы абаранкі.

Дзядзька ж Вася, цётка Ганка
запыталіся ў Іванкі:
— А з чаго, скажы, Іванка,
пякла мама абаранкі?

А Іванка, хлопчык смелы,
адказаў на гэта ўмела:
— З цеста круцяць абаранкі...
Тры мяхі мукі ў нас белай.

Трактарысты ж зноў спыталі:
— А мукі дзе вы дасталі?
Можа, ты ў сваім млыночку
намалоў яе з пясочку?
— Не з пясочку, а з зярнятак
намалоў мукі мой тата!

— Маладзец! — сказалі Янку
дзядзька Вася, цётка Ганка. —
Але ж дзе раслі зярняты,
не пытаўся ты ў таты?

— На палях, дзе спее колас! —
мы гукнулі ў адзін голас. —
Дзядзька Вася, цётка Ганка,
хутчэй сейце абаранкі!

1. Прачытайце верш самі сабе. Ці можна пасеяць абаранкі? З чаго іх вырабляюць? Знайдзіце адказ у тэксце.
2. Прачытайце, адкуль бярэцца мука для абаранкаў.
3. Вызначце, які настрой у верша.
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання: не забывайцеся рабіць паўзы пры знаках прыпынку, з правільнай інтанацыяй чытайце клічныя і пытальныя сказы.

ра-спу-ска́-е-цца

## Пасадзіце рабінку

*Рыгор Ігнаценка*

Той чалавек, які не пасадзіў ніводнага дрэўца, дарэмна жыццё пражыў. Так вучыць мудрая народная прымаўка.

Але чаму я раю пасадзіць рабінку, а не бярозку альбо клёнік ці ліпку?

Можна, вядома, і іншыя дрэўцы пасадзіць. У мяне, напрыклад, ёсць каля дома і бярозка, і елачка, і асінка.

Дык вось паслухайце, чаму я раю менавіта рабінку пасадзіць.

Вясною гэта дрэўца адно з першых распускаецца. Наўкол яшчэ шмат якія дрэвы голыя стаяць, а яно ўжо тонкімі лісточкамі каля дома зелянее.

А як прыгожа цвіце рабіна! Па зялёнай кроне белымі шапкамі раскіданы пышныя суквецці. Прыемны водар ад іх за вярсту чуцён.

У канцы лета, калі ўсё ў прыродзе пачынае блякнуць і губляць сваю пышную прыгажосць, раптам пад акном успыхне рабіна. Загарыцца чырванню полымя і прамяніцца не згасаючы. І вось часам спыніцца які-небудзь прахожы і падзівіцца:

— Хараство якое!

Восенню каля вашага дома ўвесь час будуць трымацца розныя птушкі — шпакі, дразды, снегіры. На дрэўцы яны будуць ласавацца сакавітымі ягадамі, дзякаваць звонкімі галасамі гаспадару за смачны пачастунак.

Калі лісце на дрэвах ападзе, на рабінцы доўга яшчэ будуць чырванець гронкі ягад, звычайна аж да самага снегу.

Не здзіўляйцеся, калі да вас завітаюць стары дзядок або бабулька, якія ўжо не могуць хадзіць далёка ў лес. Яны папросяць ягад на лекі.

Пасадзіце, дзеці, сабе рабінку, не пашкадуеце. А як лепей зрабіць, думаю, вам кожны дарослы дапаможа.

**Во́дар** — пах.
**Дарэ́мна** — без карысці, упустую.
**За вярсту́** — далёка (вярста — мера даўжыні, роўная 1 км 60 м).
**Ра́іць** — даваць якую-небудзь параду.
**Сукве́цце** — верхняя частка сцябла з кветкамі, сабранымі ў выглядзе парасоніка.

1. Чаму пісьменнік раіць пасадзіць менавіта рабінку, а не іншае дрэва?
2. Прачытайце, як апісана рабінка.
3. Растлумачце сэнс народнай прымаўкі, дадзенай у пачатку твора.



## Лета

*Сяргей Грахоўскі*

Прыходзіць лета звонкае
Птушынаю гамонкаю,
Над сінімі азёрамі
Яно ўзыходзіць зорамі,
А пахне медуніцамі
І спелымі суніцамі.
Прыходзіць лета сцежкамі
З малінай, сыраежкамі,
Частуе на пагорку
Арэхамі вавёрку,

На возеры, ля берага,
Гукае зайца шэрага...
Куды ні глянь — усюды
Цябе чакаюць цуды,
Цябе чакаюць сцежкі
І радасныя ўсмешкі,
Лугі, лясы, палі
І шчасце на зямлі.

?!

1. Пра лета паэт гаворыць як пра жывую істоту. Якія словы дапамагаюць уявіць лета жывым? Знайдзіце іх у тэксце.
2. Што прыносіць лета? Чым яно пахне? Прачытайце.
3. Да чаго заклікае паэт? Знайдзіце ў вершы і растлумачце.
4. Прачытайце верш выразна. Падумайце, які настрой трэба перадаць пры чытанні, якія словы вылучыць голасам.
5. Як вы праводзіце лета? Чым займаецеся? Раскажыце.

## А таму!

*Мікола Янчанка*

Змітрок, Валодзя і Маня ў лес ідуць. У грыбы, мусіць. Ромка таксама ўхапіў кошык ды на вуліцу:

— І мяне вазьміце!

— Хадзем, — кажа старэйшы, Змітрок. — Толькі не адставай ад нас. Каб не згубіўся часам.



— Добра, — паабяцаў Ромка, — не адстану.

Да лесу рукой падаць. Усе прама пайшлі... А Ромка бачком, бачком ды налева. Рашыў прабегчы па тых мясцінах, дзе яны з бацькам раней былі. Вось і знаёмая канаўка паўз дарогу. Ромка адразу крок прыцішыў, прыгнуўся крыху, пачаў уважліва заглядваць пад елачкі ды разграбаць прыўзнятыя лісточкі. І аж уздрыгнуў ад нечаканасці: з-пад лапак выглядаў каранасты прыгажун баравік. Ромка палюбаваўся ім, зрэзаў і паклаў у кошык. Ступіў некалькі крокаў — яшчэ адзін, азірнуўся вакол — трэці, чацвёрты!

А дзесьці ў глыбіні лесу крычалі Змітрок, Валодзя і Маня. Яго клікалі. Але Ромка не адгукнуў-

ся. «Яшчэ сюды прыбягуць і мае баравікі пахапаюць», — думаў ён...

Галасы Змітрака, Валодзі і Мані сталі ледзь чутныя. Ромка спалохаўся і пабег да сяброў.

— Дзе гэта ты быў? — незадаволена сустрэў яго Змітрок. — Мы ўсе ногі пазбівалі, цябе шукаючы.

— Заблудзіўся я, — зманіў Ромка і апусціў долу вочы. — Адышоў ад вас і заблудзіўся.

Падбеглі Валодзя і Маня.

— А мы цябе шукалі, шукалі, — пачала сыпаць Маня. — Думалі ўжо ў вёску бегчы ды старэйшых клікаць...

— Дадому час, — спыніў яе Змітрок і завярнуў на дарогу.

Ромку было няёмка перад сябрамі. Ён ішоў за імі, апусціўшы галаву. Але настрой яго адразу ўзняўся, калі ўвайшлі ў вёску.

— Глядзі ты, — дзівілася маці, — такі малы, а поўны кошык баравічкоў набраў. А ты, Змітрок, пэўна, варон лічыў. Толькі дно закрыў.

Хацеў Змітрок сказаць, што не да баравікоў яму было, што вось гэтага Ромку шукаў, ды змаўчаў.

Назаўтра Ромка сам да Змітрака пайшоў. Там Валодзю і Маню застаў. З кошыкамі.

— І я з вамі! — гукнуў Ромка.

— Не, — панура адказаў Змітрок, — мы цябе з сабой не возьмем.

— А чаму?

— А таму! — адказаў за Змітрака Валодзя.

**До́лу** — уніз.
**Му́сіць** — магчыма.
**Нечака́насць** — раптоўнасць.
**Няёмка** — тут: сорамна.

1. Ці спадабаўся вам Ромка? Чаму?
2. Растлумачце назву твора.
3. Як вы думаеце, чаму дзеці не захацелі ўзяць Ромку другі раз з сабой?
4. Перакажыце тэкст па пытаннях:

1) Куды ішлі Змітрок, Валодзя і Маня?
2) Хто папрасіўся ісці з імі разам?
3) Як паводзіў сябе ў лесе Ромка?
4) Чаму толькі адзін Ромка набраў цэлы кошык баравікоў?
5) Чаму дзеці не ўзялі другі раз, назаўтра, Ромку з сабой у лес?

## Скорагаворкі

*Васіль Жуковіч*

**Чэрвень**

Чарнеюць
чарніцы,
і чырванеюць
суніцы.

**Ліпень**

Лета. Ліпень.
Ліўнуў лівень.
Пахнуць ліпы
І маліны.

### Жнівень

Жняцы́ на ніве,
жне жыта жнівень.

## Загадкі

*Васіль Жуковіч*

### Падлічы

Раслі чатыры бярозы,
На кожнай бярозе —
Па чатыры вялікія веткі,
На кожнай вялікай ветцы —
Па чатыры маленькія веткі,
На кожнай маленькай ветцы —
Па чатыры яблыкі.
Колькі ўсяго яблыкаў?
Хі-хі-хі! Ха-ха-ха!

* * *

Спяшаецца
як на пажар,
стараецца —
нясе цяжар,
не скардзіцца, што цяжка,
маленькая ... .

* * *

З выраю
першы вяртаецца,
з песняй

да свету звяртаецца,
поля і неба сябрук —
гэта, вядома, ... .

* * *

Як толькі дачакалася цяпла,
збіраць нектар
старанна пачала
працалюбівая ... .

* * *

Маю галінку вы ўзялі,
у зямлю ўваткнулі, палілі —
карэньчыкі яна пусціла
і ў рост пайшла з вялікай сілай.
Люблю расці я над вадой,
а называюся ... .

* * *

Вырас вожык за дарогай
У калючках, ды без ног,
Не каліся,
Не палохай
Нас усіх
чарта... .

Паспрабуйце скласці загадку пра свойскіх жывёл: пеўня, сабаку, ката. Вызначце іх афарбоўку, якасці, напрыклад: сабака пільнуе дом, кот ловіць мышэй, певень будзіць уранку і г. д.

## Загадкі

*Мікола Чарняўскі*

* * *

Гудзе, ды не самалёт,
Можа раніць, ды не страла.
Хто адгадае, хто гэта?

* * *

З «м» — я рыба,
З «я» — расліна.
З «к» мяне ўсе
Піць павінны.
З «с» я клічу
Ратаваць,
З «н» прымушу
Моцна спаць.

Які з прапанаваных складоў *(са, со, су)* пачынае словы-адгадкі?

## Не магу жыць без Радзімы

*Станіслаў Шушкевіч*

У дуброве, каля рэчкі,
Віснуць сочныя парэчкі,
У пералеску, ля крыніцы,
Зззяюць спелыя суніцы.
І вясной, і цёплым летам

Тут наўкола многа кветак.
Нівы жыта і пшаніцы,
У стаўку вада іскрыцца.
Журавель з вядром, калодзеж...
Дзе ж такое месца знойдзеш?
Ну, куды ж пайсці, падацца,
Па якой прайсці мне кладцы?
Хараство, куды ні глянеш,
Ад світання да змяркання.
І парэчкі — каля рэчкі,
І суніцы — ля крыніцы...
Без цябе жыць немагчыма,
Мая любая Радзіма!

1. Якім настроем прасякнуты верш (радасным, сумным, вясёлым)?
2. Якімі цудоўнымі карцінамі прыроды любуецца паэт? Прачытайце.
3. Паразважайце, чаму «без цябе жыць немагчыма, мая любая Радзіма!».

**Ставо́к** — невялікая са́жалка.

## На што падобна аблачынка?

*Галіна Каржанеўская*

На што падобна аблачынка?
— На параходзік.
— На дзяўчынку.
— На куст чаромхі.

— На слана.
— Падобна на крыло яна!
Сказаў адзін:
— На апельсін.
Сказаў другі:
— На берагі.
...Пакуль кампанія гадала,
Хмурынка белая — растала.

?!

1. Паназірайце за воблачкамі. Гэта цікава.
2. Прачытайце верш выразна. Захоўвайце пытальную і клічную інтанацыі.

## ПАРАЗВАЖАЙЦЕ НАД ПЫТАННЯМІ

1. У якіх творах распавядаецца пра вясну? А ў якіх пра лета? Назавіце адпаведныя творы і іх аўтараў.
2. Чым падабаецца пісьменнікам вясна і лета?
3. Якія творы з гэтага раздзела ўразілі вас? Чым?
4. Складзіце невялічкае апавяданне пра вясну або лета.

# Адгадкі

Рэха (с. 32).
Вада (с. 53).
Снегіры (с. 55).
Сабака (с. 77).
Ручаёк (с. 92).
Вожык (с. 93).
Яблыкі на бярозе не растуць; мурашка (с. 102).
Жаўрук; жала; вярба; чартапалох (с. 103).
Пчала; сом, соя, сок, сос, сон (с. 104).

# ЗМЕСТ

## ПАЛЯЦЕЛІ ГУСАНЬКІ ПА ЦЯПЛО...



## МОЙ РОДНЫ КУТ! ЯК ТЫ МНЕ МІЛЫ!..

## У ШЫБУ ГАЛІНКАЮ СТУКАЕ СНЕЖАНЬ...



## СЦЕЖКІ ДЗЯЦІНСТВА



## БАГАТА ВЯСНА КВЕТКАМІ, А ЛЕТА — ГУЛЬНЯМІ

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |


Вучэбнае выданне

**Варапаева** Валянціна Сцяпанаўна
**Куцанава** Таццяна Сцяпанаўна

**Літаратурнае чытанне**

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка.*
Рэдактары *К. І. Іванова, Л. Ф. Леўкіна.*
Мастакі *Л. А. Мурашка, І. А. Усенка.* Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка.*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *М. І. Чаплаводскай.*
Карэктары *Н. М. Мамчыц, Н. І. Пархун.*

Падпісана ў друк 24.06.2013. Фармат $70\times90\,^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 8,19. Ул.-выд. арк. 3,58+0,4 форз. Тыраж 108 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск